Мой твар, відаць, зробіцца аднога колеру зь зялёнаю камізэлькай, бо нейкая цётка прыпынецца каля нас і жахнецца:

«Трэба «Хуткую дапамогу» выклікаць. Ён памрэ зараз!»

«Ня трэба, – закрычыць наўздагон ёй W., – ён проста моцна стаміўся!»

Толькі пагроза прыезду дактароў прымусіць мяне падняцца. Дрыготкі, са зьвінячым шклом, тралейбус аніякім чынам майго адчуваньня не палепшыць. Я глядзецьму праз шыбу на тратуары нязрушным позіркам. Застыгнуць жаданьні, памкненьні, застанецца толькі накірунак руху.

Апошнім намаганьнем волі я прымушу сябе прайсьці праз свой, а некалі – наш зь ёю, двор. У пад’езьдзе я прывалюся сьпінай да паштовых скрынак, абдыму W. і пацалую. Не таму, што мне гэтага захочацца – адзіным жаданьнем стане легчы і заснуць, а таму, што інакш нельга разьвітвацца з каханай. Яна моцна–моцна прыцісьнецца да мяне і апантана пачне паўтараць:

«Я кахаю, кахаю...»

І толькі я зьбяруся адказаць ёй, як увышыні ляснуць дзьверы. Мы тарганемся, шчоўкне зашчапка мэталёвага бранзалета на маёй руцэ, гадзіньнік упадзе дзяўчыне пад ногі. Я пабягу да сваіх дзьвярэй.

Дома я адразу ж распрануся і лягу спаць, хоць і будзе шчэ сьветла. Пабудзіць мяне тэлефонны званок:

«Добрай раніцы, Максім, ты як?» – павітаецца W.

Я прыгадаю ўчарашні дзень: узьнёслыя словы, музыку, спалены тэатр, асалоду блізкасьці, цёплы фаянс унітаза і цераз сілу прызнаюся:

«Такое са мной адбылося ўпершыню. Выбачай».

«Са мной таксама. Ты не адмаўляесься ад учарашняга?» – спытае яна.

«Ад чаго менавіта?»

«Мы сустрэнемся яшчэ, ці ты зноў зьнікнеш на год?»

Я памкнуся сказаць: «Сёньня ж», – але сустрэнуся позіркам з уласным адбіткам у насьценным люстэрку, згадаецца самае брыдкае, зразумею, і яна ніколі не забудзе ўчарашні дзень.

«Чаго ты маўчыш?» – насьцярожыцца W.

«Калі я паабяцаў табе нешта пэўнае ўчора, то выбачай. Я ня мусіў гэтага казаць».

«У мяне твой гадзіньнік, ты яго мусіш забраць. Праўда, ён зламаўся. Сустрэнемся і пагаворым».

«Выкінь яго. Бывай».

Мы памаўчым. W. больш не перазвоніць.

* * *

Да апошняе сустрэчы ў нашых жыцьцях пройдзе яшчэ тры гады. Я скончу школу, так і не дазнаўшыся, хто яе кузіна, паступлю ў інстытут, закіну музыку і намеруся сур’ёзна заняцца літаратурай. Нават напішу навэлу на адзінаццаць старонак з адраджэнскім сюжэтам:

«Адзін хлопец, зразумела, сьведамы беларус, прыязджае зь Менску ў Вільню і спазьняецца на зваротны цягнік. Ён мусіць застацца нанач у сталіцы Вялікага Княства. Ані грошай на гатэль, ані сяброў. Ён сядзіць у бары, што каля Гострае Брамы ў Сьвятадухаўскіх мурах, і бавіць час да закрыцьця. Настае шарая гадзіна, і да яго падсаджваецца дзяўчына ў старасьвецкае сукні, тлумачыцца – чула, як ён замаўляў каву па–беларуску. Яны доўга і нудна гавораць, лаюць летувісаў, узносяць беларусаў. Апоўначы хлопец бярэцца правесьці дзяўчыну дадому. Абязьлюднелае места. Хлопец кажа, што вось такая Вільня яму даспадобы. Уначы, бяз прышлых, яна зноў робіцца спрадвечнай беларускай сталіцай. Яны даходзяць да невялікага баракальнага асабняка ў старым завулку. На франтоне сьцюкавы мэдальён з жаночым профілем. Вядома, гэта скульптурны партрэт гаспадыні, якая прапануе хлопцу застацца нанач. Хлопец і дзяўчына сядзяць пры сьвячах, зноў вядуць нацыянал–патрыятычную гутарку. Калі сама сабою гасьне апошняя сьвяча, яны кахаюцца. Перад сьвітанкам хлопец сыходзіць, але з паўдарогі да вагзалю вяртаецца, каб паглядзець адрас. Завулак на месцы, а вось асабняка няма. І тут на ранішняе вуліцы хлопец здагадваецца: ягонаю каханаю гэтай ноччу была сама Вільня, яе душа. Пасьля такога адкрыцьця ён робіць слушную выснову, што аніводнаму летувісу ня дадзена завалодаць

душой Вільні, бо яны зьнявечылі назву места. Для іх існуе толькі Вільнюс – ён, мужчына, а гэтае места спрадвеку – яна, Вільня. І толькі беларусу дадзена яе зразумець, а часам і ўбачыць».

Вось такая нацыянал–эратычная тэма прыйдзецца мне даспадобы ў сямнаццаць гадоў, калі перайду на другі курс Палітэхнічнага інстытута.

У мяне зьявіцца сябра жыд Z., і ўсе студэнцкія гулянкі пачнуць ладзіць то ў мяне, то ў яго. Праўда, Z. будзе наладжваць і асобныя паўпадпольныя гулянкі, выключна для жыдоў. На іх мяне, зразумела, запрашаць ня стануць. Але аднойчы на адну зь іх трапіць давядзецца. Я пазычу падчас летняе сэсыі ў Z. касэты з запісамі, а прынясу іх аддаваць на дзень раней, чым абяцаўся, у суботу пад вечар. Забудуся на існаваньне ігудэйскага Шабасу.

Аніводнага славянскага твару, у магнітафоне касэта з народнымі песьнямі на ідыш. Госьць, хто п’яна змаўчыць, хто працягне размову. Каго я пазнаю, каго ўбачу ўпершыню. Нехта вызірне з ваннага пакоя, але толькі павярну галаў, дзьверы зачыняцца. Z. павагаецца і запросіць мяне да стала, сядзе побач, наліе лікёру. Мне падасца – рукі робяцца ліпкімі, нібыта на іх пырснулі алеем, і толькі потым зразумею – вінаваты пах і сьвятло араматызаваных сьвячэй, што сыходзяць ад масыўнага залачонага сямісьвечніка пасярод стала.

«Пайду рукі памыю», – скажу я.

Гаспадар спыніць мяне:

«Не мітусіся. Умывалка занятая».

Я падыму чарку, каб кінуць пару слоў пра спрадвечнае братэрства жыдоў і беларусаў, ды так і спынюся. Шчоўкне зашчапка, пачуецца, як шалёна гудзе вада ў ванным пакоі. Рыпнуць масьніцы. Змоўкнуць госьці. Скаланецца лікёр у маёй чарцы. На парозе гасьцёўні стане мокрая, як тапелец, цалкам аголеная W.

«Падлы, – яна з пагардаю абвядзе позіркам



Sakuma Shigeru



прысутных, – мяне пад халодны душ пасадзілі, а самі п'яце?»

«Зьнікні, – Z. падымецца, – ты не заўважаеш, што ў задніцу п'яная?»

«Пляваць, тут усе свае», – яна прытрымаецца за выключальнік, запалымнеюць ражкі жырандолі.

«У нас госьць. Знаёмся – Максім. А сваё імя паспрабуй вымавіць сама, калі здолееш».

«Фарысей пархаты, ты яшчэ спадзяесься мяне зь ім пазнаёміць. Мяне і безь цябе ведаюць. Дарэчы, – яна скрывіць вусны ў пыхлівае ўсьмешцы, – я ня п'яная ў задніцу, а ў задніцу голая».

W., пакідаючы на паркеце мокрыя сьляды, абыдзе стол і сядзе мне на калені. З доўгіх мокрых валасоў па яе мярцьвяна зімным целе пабягуць на мае джынсы струмкі ільдзяное вады. Пасінелыя вусны дзяўчыны задрыжаць.

«Ціха! – W. гучна плясьне ў далоні, – я забаўляцца хачу! Вып'ем за першае каханьне, тады дакладна нікога не званітуе. Налі мне, Максім».

Z., як гасьцінны гаспадар, адно пацісьне плячыма. Маўляў, рабіце, што хочаце – горш ужо ня будзе. Я плескану лікёру на дно шклянкі, але W. перахопіць бутэльку, моцна прыцісьне рыльца далоньню, і ружовы лікёр пацячэ цераз край на абрус. Я вазьмуся забіраць зь яе рук шклянку, мы завалтузімся і абліемся салодкім, як сіроп, журавінавым лікёрам «Pollar». W. разьдзярэ мне пазногцямі руку і ўкусіць за плячо.

«Прасьпіся!» – закрычыць на яе Z.

«Пайшоў ты, – лагодна адпрэчыць яго W., – калі і пайду, дык толькі з Максімам. Ідзем, яны анічога не разумеюць у забавах, яны не чыталі Шнайдэра і ніколі не заставаліся ў адной клясе на другі год. Хай п'юць бяз нас».

«Ты і так п'яная», – я зноў забяру ў яе шклянку.

«У задніцу», – засьмяецца яна.

«Але».

«Ня хочаш забаўляцца? Тады хадзі галодны».

Яна крутнецца, пырскі з мокрых валасоў разьлятуцца па пакоі, падымецца і надзіва годна выйдзе ў спачывальню. Ляснуць пад праймаю дзьверы, ажно згасьне адзін агенчык на сямісьвечніку.

Мне зробіцца прыкра, нібыта дзеўка напілася са мною, а ня зь імі. Я нават не азавуся на кпіны, а пазьбіраю яе кінутыя ў чарупіну ўмывалкі апранахі і старана раскладу каля ложка на фатэлі. Джынсы, кашулю, калготы, суцэльны, без запінкі, станік і бязважкія карункавыя майткі – пад раніцу яна ня мусіць шукаць рэчаў, а надзене ўсё па–парадку.

Я не адчую ўзбуджэньня, калі буду накрываць яе халоднае цела прасьцінаю і падтыкаць з бакоў цёплым вярблюджым пледам. Затое рэчы мне пададуцца цяплейшымі за мае рукі. Я замілавана распраўлю выцертыя, падшытыя паміж ног замшай джынсы, кашулю са шчытнае шатляндкі, на рагу каўнерыка якой блісьне мэталем крыва прышпіленая літарка «W». Я правяду пальцамі па вільготных карунках бялізны, адчую мяккую бязважкасьць калготавага павуціньня. Прыглушаныя тытунёвым дымам, пахі парфумы давядуць мяне да млосьці.

За стол я не вярнуся, пайду. І толькі праз месяц, сустрэўшы Z. у краме, спытаюся, нібыта між іншым, як там маецца цяпер W.

«Ужо ліст даслала», – адкажа ён.

«Адкуль?» – яшчэ не зразумею я.

«Пакуль што з Рыму. А ты ня ведаў, што яна эмігруе? Таму і напілася ледь ня першы раз у жыцьці, каб было што згадаць».

* * *

Праз пяць гадоў зьедзе і Z., а дазнаюся я пра гэта зь дзясятых рук. У Менску я сустрэну яго толькі на пачатку дзевяностых гадоў. Ён будзе стаяць, бачны здалёк, на скрыжаваньні вуліц Даўгабродзкае і Зьмітрака Бядулі, у шырокім плашчы з чорнаю сумкаю цераз плячо – самотная постаць на залітым вечаровым сонцам пляцы.

Заскрыгоча па рэйках коламі, пырсьне з-пад дугі жарынкамі трамвай. Пад чорным капелюшом зайскрацца, як пацягнутыя лакам або спырснутыя алеем, доўгая прававерная барада і пружыны пэйсаў.

Мы павітаемся за руку. Як высьветліцца, ён атабарыцца ў Лас-Анджалесе – зоймецца праектаваньнем аўтамабільных стаянак, а ў Менск вернецца папарадкаваць магілы бацькоў.

«У мяне ёсьць пляшка журавінавага лікёру», – прапануе Z.

На Вайсковых могілках, каля магілы жонкі Якуба Коласа мы сядзем на літую чыгунную лаву.

«Субота, – залішне сур’ёзна для мяне заўважыць грамадзянін Злучаных Штатаў, – мне да заходу сонца піць нельга, сёньня Шабас. Счакаем».

Нарэшце зблякне вечаровая чырвань на мармуровым помніку, схаладнее мэдальён са скульптуным профілем паэтавае жонкі, счарнее зеляніна могілкавых кіпарысаў. Z. выцягне з сумкі пляшку рубінавага лікёру і прапануе тост:

«За ўсіх, пра каго ўспамінаем з любоўю».

Мы віп’ем.

«Табе, дарэчы, прывітаньне ад W.», – згадае ён.

«Яна таксама ў Лас-Анджалесе?»

«Я сустрэў яе ў Вашынгтоне. Калі дазналася, што паеду ў Менск, прасіла перадаць табе прывітаньне. Вось та–ко–е, – ён разьвядзе рукі, – сказала, яно такое вялікае, што ты яго ў дом не зацягнеш і пакінеш у двары».

«Каму–небудзь перадавала большае?»

«Табе аднаму».

Мы дап’ем пляшку і Z. зьедзе на трамваі.

* * *

Срабрыстая кропля аўтобуса сьлізгаціць па грэблі да горада, накрытага вільготнай коўдрай дажджавых хмараў, а тут, каля міжнароднага гатэля на беразе Заслаўскага вадасховішча, ужо сьпякотна.

У маленькім бары зь люстраною стольлю тлумна. Мае крокі глохнуць у тоўстым дывановым пакрыцьці, пад якім адчуваецца коўзкае шкло.

Я замаўляю дзьве кавы, ладкуюся за стойкай. Жанчына, адстаўляе пустую шклянку з саломінкай, вінавата ўсьміхаецца. У яе вачох – п’янаваты бляск.

«Ты спазьніўся».

«Выпі, цьвярэзіць. Я ўзяў дзьве», – падсоўваю да яе філіжанку.

Мы ў нумары на апошнім паверсе, прыслухоўваемся да сваіх адчуваньняў. Яна ідзе ў ванны пакой.

За шклом лоджыі зьзяе адбітым сонцам вадасховішча. Рэдкія плямы бязьлюдных выспаў. На шазьлёнгу скамечаны рушнік, а на ім забыты квадрацік люстэрка, у якім, калі яго павярнуць, адаб'ецца недарэчны на дзённым небе месяц.

Жанчына з рушнікам стаіць на парозе душа.

– Паслухай, аказваецца, у гэтым бары ня толькі столь, а і падлога была люстраная. Яе заслалі дыванамі празь месяц пасьля адкрыцьця. Мужчыны толькі і рабілі, што глядзелі дзеўкам пад ногі.

– Адкуль ты ведаеш?

– Бармэн расказаў. Толькі што. Праўда, сьмешна?

– Я ведаў пра гэта яшчэ ў шостае клясе.

– Ты гадкі, – кажа яна, – не каб падгуляць мне. Заўсёды дурніцай выстаўляеш.

Яна зачыняецца ў душы, каб я ня бачыў, што робіць.

А што там глядзець? Ведаю, стаіць перад люстэркам, фарбуецца, папраўляе валасы і не адыдзе, покуль ня ўпэўніцца – на шкле ляжыць дасканалы адбітак.




## ВОСТРАЎ КРУШЭЎСКАГА

Раман доўга і безнадзейна ўзіраўся ў мінулагодні каляндар, падпраўлены ім пад сетку гэтага года. Яго позірк слізгацеў па лічбах і скаротах дзён тыдня. Ён лічыў і пералічваў. Памылкі быць не магло – на дварэ стаяла позняя восень, з зыходам якой малады чалавек звязваў свае надзеі на выратаванне. Тры апошнія месяцы цягнуліся марудна. За гэты час ён не аднойчы вяртаўся ў думках да той жнівеньскай ночы – ночы, што так раптоўна перакуліла ўсё на свеце ў нечаканы, неверагодны, поўны крыклівай вусцішы бок.

Дзень перад той ноччу выдаўся надзвычай добрым. Праца ў офісе закончылася рана. Работнікі на прапанову шэфа вырашылі адзначыць паспяховае падпісанне выгоднага для іх фірмы кантракта. З выбарам месца для незапланаванага карпаратыву асабліва не замарочваліся – зрабілі набег на бліжэйшую краму і зладзілі гулянку проста ў офісных сценах. Агульны настрой быў прыўзняты. Выпівалася і закусвалася ўсмак. Раман даў сабе волю з выпіўкай і за гадзіну святкавання набраўся, як твань.

Усё, што адбывалася пасля дзясятага кілішка каньяку, ён памятаў адно дробнымі фрагментамі. Помніў, што нехта з калег зачапіў яго за балючае месца, згадаўшы амаль адрынутае ім захапленне ўзбірацца на высокія гарадскія будынкі, каб сфатаграфаваць з іх вышыні горад ці проста паскакаць пад рэдкую жвавую песню Placebo. “Ну што, Крушэўскі? Слабо сёння станчыць джыгу–дрыгу на даху млынкамбіната?” – з выклікам спытаў калега. Рамана гэта вельмі абурыла, і ён паспяшаўся прыняць выклік.

Наступны ўспамін быў звязаны з распіццём гарэлкі ў нейкім дворыку. Перад вачыма выразна стаяў чырвоны "грыбок" з дзіцячай пляцоўкі. У вушах трывалі змяшаныя галасы падпітых калегаў, якія чакалі, калі Крушэўскі "ўрэжа штучку", і звонкі дзявочы смех недзе збоку. Потым памяць малявала ўсю кампанію пад плынямі залевы. З вечаровага неба лілася вада. Офісныя работнікі, вымакшы да ніткі, з пахмурнымі тварамі, моўчкі кіраваліся да млынкамбіната. Далей быў бетонны плот, хісткія перабежкі па чыгуначных рэйках, глухія вокрыкі з-за амаль суцэльнай дажджавой сцяны… "Мы верым табе, верым. Давай выбірацца адсюль, пакуль яшчэ чагось не здарылася", – апошняе, што помніў Раман з таго вечара.

Наступнай пасля п'яной бравурнасці раніцой Крушэўскі ледзьве здолеў пралупіць вочы. Павекі зліпліся ад гнойнай юшкі. Галава расколвалася. Жывот балеў. "Верхалаза" калаціла. Ушчэнт мокрая вопратка дадавала непрыемных адчуванняў. Ад усяго гэтага малады чалавек нават не звярнуў адразу ўвагі на тое, дзе яму давялося прачнуцца. Ён увогуле ляжаў пэўны час, утаропіўшыся ў нікуды. Разумеў, што пахмелле. Не разумеў, з якой прычыны. Дакладней – не памятаў. Калі ж памяць стала вяртацца, Раман нарэшце падхапіўся і разглядзеўся. Ён знаходзіўся ў памяшканні два на тры метры. Там быў стол, некалькі крэслаў, шафы, тумба са старым тэлевізарам. Сам бядак ляжаў на нейкім падабенстве канапы з вельмі цвёрдым матрацам. Маладзён не памятаў, як сюды трапіў. Памяшканне нагадвала яму ці то камору вартавога, ці то сціплы пакой адпачынку рабочых. Зрэшты, Крушэўскі не стаў ламаць над гэтым і без таго балесную галаву, а кінуўся да заўважанага на стале чайніка. Там была астылая гатаваная вада. Ні секунды не вагаючыся, ён стаў прагна цягнуць ваду проста з носіка. Ад пахмелля гэта не ўратавала. Рэшту вады з чайніка маладзён плёснуў у далонь і прамыў вочы. З прамытымі вачыма ён памкнуўся да аднаго з вакон. Аднак шыбкі звонку былі запэцканыя граззю, і нічога разгледзіць праз іх не атрымлівалася. Тая ж карціна чакала яго і каля другога вакна.

Раман брудна вылаяўся, прыгадаўшы ў непрыстойным кантэксце і бога, і д'ябла, і воінства нябеснае. Стараўся змагчы хваляванне. Набіраўся смеласці перад тым, як пакінуць памяшканне. Дзверы былі прачыненыя. За імі праглядалася лесвіца, якая вяла ўніз. Цяжка ўздыхнуўшы, малады чалавек падаўся наперад. Спускацца давялося ўсяго на адзін паверх. Там зноўку чакалі дзверы. Гэтым разам "верхалаз" не марудзіў, штурхнуў дзверы і зрабіў некалькі крокаў наперад. Ён чакаў магчымага і немагчымага. Але тое, што адкрылася вачам, было далёка па-за межамі


*Вольга Якубоўская*

ўсіх ягоных чаканняў. Ён быў гатовы ўбачыць двор якой–небудзь фабрыкі, кашару аўтастаянкі альбо нават ангары з ваеннай тэхнікай (хаця апошняе было яўным пераборам). Але замест усяго гэтага дзверы яго вывелі на даўжэзную пляцоўку, акантаваную па перыметры высокім бардзюрам, за якім амаль адразу ж стаяла вада. Ды што там за бардзюрам! Вада стаяла ўсюды на многія кіламетры! Ад далягляду да далягляду навокал нічога, акрамя вады, не было. Шакаваны Крушэўскі круціў галавой, не даючы веры сваім вачам. Карціна не знікала. Тады ён стаў бегаць

Вольга Якубоўская

па пляцоўцы, зазіраць у розных месцах за бардзюр. Але ад гэтага нічога не змянялася – вада сапраўды стаяла наўсцяж.

Агаломшаны малады чалавек не мог зразумець, дзе знаходзіцца. Але павярнуўшыся да памяшкання, з якога ён кагадзе выйшаў, імгненна пазнаў забудову. Ён часта яе бачыў, праязджаючы ў раёне млынкамбіната. Гэтая забудова была вышэйшай кропкай патужнага элеватарнага комплексу. “Дык я зараз на даху млынкамбіната?” – вырвалася ў бедака з вуснаў. Вецер таропка панёс яго словы і рэхам раскідаў па наваколлі. Раман схапіўся абедзвюма рукамі за галаву, нібыта намагаўся ўтрымаць узрушаныя глузды, што імкнуліся на вонкі. “Як гэта магчыма?! Як?! – шалянічна разважаў ён. – Што ж гэта за дождж такі ўчора абрынуўся на нас, калі зараз горад амаль цалкам пад вадой? Гэта новы сусветны патоп? Але колькі вады мусіла хлынуць з продухаў нябесных, каб зрабілася тое, што зрабілася? Няўжо ўсе людзі загінулі?”. Маладзён яшчэ раз зірнуў на водныя абшары вакол сябе. Ён ведаў, што і без таго высокі млынкамбінат месціўся на ўзгорку, адкуль быў бачны з розных пунктаў горада. Аднак гэта не было самае высокае гарадское збудаванне. З-пад вады павінны былі вытыркацца канцы тэлевізійнай вышкі і вежы панчошнай фабрыкі, а таксама цэлы архіпелаг з дахаў шматпавярховікаў. Але не вытыркалася нічога. Зусім нічога.

Ад адкрыццяў той раніцы хацелася скуголіць і крычаць. Крушэўскі і не стрымліваў сябе, зноў і зноў ажыўляючы рэха. Гэта быў адчай. Гэта была дзікая роспач, на глейкай кромцы якой, аднак, ліпеў спадзеў на тое, што нехта ўсё ж пачуе ўсе скуголенні ды крыкі і ўрэшце адгукнецца. Ніхто не адгукаўся. Не было чуваць нават птушак. Сонечны дыск падымаўся ўсё вышэй і вышэй. Малады чалавек прымружыў вочы, ловячы яго гарачыя промні. Хацелася, каб вопратка высахла. Думалася, што гарачыня здолее прагнаць ваду. Не адразу. Паступова. За нейкую колькасць дзён. Гэтыя думкі дадавалі сілаў і штурхалі да дзеяння. І хоць галава па-ранейшаму трэскалася ад пахмелля, бядак стаічна вытрымаў колькігадзіннае перабыванне пад сонцам, адно што накінуў на галаву насоўку, якая знайшлася ў кішэні штаноў. Калі вільгаці ў вопратцы амаль не засталося, Раман рушыў назад у вартоўню.

Ён не верыў, што ў вартоўні не знойдзецца ані кропелькі спіртнога. Абшукаўшы памяшканне, малады чалавек знайшоў пэўныя прыпасы ежы. Хлеб, сала, макарона хуткага прыгатавання, кубікі булёну, колькі цыбулін і падвялых гуркоў, слоік з чайнай заваркай – усё гэта ўяўлялася зусім не лішнім у чаканні тых дзён, калі ровень вады апусціцца да мінімальнай адзнакі. У адной з шафак знайшлося некалькі пляшак з мінералкай. У іншай – тры пушачкі запалак. “У гаспадарцы ўсё спатрэбіцца”, – стараўся падбадзёрыць сябе Раман, працягваючы пошукі. Ён яшчэ раз агледзеў памяшканне і прамовіў правіла, якое часта гучала ў старых дэтэктывах: “Хочаш нешта схаваць – пакладзі на самае бачнае месца”. Яго позірк спыніўся на тэлевізары. Падышоўшы да дабітага лямпавага апарату, ён не вытрымаў спакусы і паспрабаваў уключыць старэчу. Падумаў: “А раптам ён працуе, і я ўбачу навіны пра патоп?”. Тэлевізар не працаваў. Дакладней, не было электрычнасці, каб праверыць. Давялося плюнуць і зрабіць тое, дзеля чаго, уласна, падыходзіў да тумбы з тэлевізарам. Крушэўскі абхапіў цяжкі апарат і павярнуў яго на 180 градусаў. Кажуха ззаду не было, і ўся накрыпка апынулася навідавоку. Акрамя лямпаў, тыльнай часткі кінескопа ды іншых “дагістарычных” дэталяў, шукальнік угледзеў там паўлітровую пляскатую бутэльку з празрыстай вадкасцю. Зняўшы закрутку, ён асцярожна панюхаў і расплыўся ў дабрашчаснай усмешцы – у бутэльцы была гарэлка.

Гарэлка дапамагла суняць боль галавы. Раман выпіў няшмат. Закусваў таксама сціпла, каб не зжэрці ўвесь знойдзены харч за раз. Алкаголь трохі прыўзняў цалкам заняпалы настрой. Можна было ісці ў выведку – больш уважліва агледзець пляцоўку і прылеглую да яе акваторыю. Усё, што месцілася ніжэй даху на адзін метр, было затоплена. Праз адмысловыя люкі малады чалавек зазірнуў ўсюды. Разам з тым высветлілася, што зерне расплылося не паўсюль, і яго можна было начэрпаць. Пакорпаўшыся ў вартоўні, Крушэўскі змайстраваў з бляшанкі і доўгага кія нешта накшталт чарпака. Выцягнутае з вады зерне ён абярэжна раскладваў на даху, каб тое падсохла на сонцы, а потым пераносіў у вартоўню, дзе ссыпаў у пустыя пластыкавыя бутэлькі.

Прыкмеціўшы за бардзюрам у вадзе дошкі, Раман дастаў і іх. Спачатку рабіць гэта было не так проста, але неўзабаве ён прылаўчыўся карыстацца для пад’ёму абрэзкам кабелю, што

валяўся на даху. Займаючыся гэтым, маладзён асцерагаўся, што з-пад вады могуць з’явіцца і целы тапельцаў. Аднак за ўвесь час працы гэтага не адбылося.

Першую пасля катастрофы ноч бядак сустракаў у абсалютнай цішыні. Чуўся толькі ягоны ўласны тупат і плёскат бязмежнай вады пад павевамі лёгкага ветру. На кавалку бляхі ён расклаў вогнішча. Дровы ледзь-ледзь паспелі высахнуць на сонцы і разгараліся з цяжкасцю. З вартоўні ён прынёс адно з крэслаў і нешта з прыпасаў. Калі вогнішча разгарэлася, Раман пачаў смажыць сала ды паставіў чайнік. Кіпнем ён заліў конаўку з макаронай і запарыў у слоіку гарбату. Запраўляўшы макарону смажаным салам, Крушэўскі доўга смакаваў вячэру, назіраючы, як чырвонае сонца патанае ў вадзе.

Сон у тую ноч ніяк не ішоў. Маладзён варочаўся на канапе, не могучы адагнаць думкі. Думаў пра ўсё, што здарылася. Варажыў наконт прычынаў. Успамінаў ранейшыя няўдачы свайго захаплення ўзбірацца на верхатуры. Яшчэ ў дзясятым класе ён палез на верх закрытай на рамонт вежы. Палез па прыступках. Акурат тады вежу пачалі мыць, паліваючы з брандспойтаў. Струмені траплялі і ў аканіцы. І вельмі шчодра. “Верхалаз” толькі цудам тады не захлынуўся. Ну, і ўменне надоўга затрымліваць дыханне нямала дапамагло. Цяпер, пасля патопу, у тым здарэнні бачыўся нейкі прарочы сэнс. Ён заўсёды хацеў рызыкі ды экстрыму. А давялося стаць крыэйтарам. Раз-пораз караскаўся на гмахі. Сядзеў пятнаццаць сутак за “несанкцыяванае пранікненне”, каб зноў вярнуцца ў офіс і прыдумваць дэвіз для новай лініі біфідакефіру.

Раніцой Раман адразу ж кінуўся на пляцоўку, каб праверыць ровень вады. Вада заставалася на ранейшай адзнацы. Ён суцяшаў сябе думкай пра тое, што ровень калі-небудзь апусціцца. Бегла снедаў, разумеючы, што харчу на доўга не хопіць. Зноў вылоўліваў зерне і дошкі. Зноў думаў, дзе ўзяць ежы. Ён помніў, дзе да патопу знаходзіліся ўнівермаг і гіпермаркет. “Калі яны не зніклі зусім, то ў іх павінны былі застацца прадукты”, – разважаў крыэйтар. Выбраўшы з дошак самыя, на яго погляд, лепшыя, ён пачаў збіваць плыт.

Напрацаваўшыся за дзень, другой ноччу Крушэўскі заснуў хутка. Але сон быў трывожным. У ім увесь час мільгала нейкая дзяўчына. Яна спуджана крычала і некаму ці нечаму супраціўлялася. Здавалася знаёмай, але прыпомніць яе па абуджэнні ён так і не здолеў.

Новы ранак не прынёс нічога новага, апроч яшчэ некалькіх дошак. Пераадольваючы злосць на ваду, якая не адступала, Раман дабудоўваў плыт. Паралельна ў голаў прыйшла ідэя сабраць з дэталяў тэлевізара самы просты прыймач. Павазёкаўшыся астатнюю частку дня, маладзён яго сабраў. Але ніякага толку ад прыстасавання без батарэйкі не было. Крушэўскі яшчэ раз упэўніўся ў патрэбе “сплаваць у магазін”. Каб не згубіцца ў часе, ён звярнуўся да мінулагодняга календара і перапраўіў яго даты на актуальныя. У гросбуху, што валяўся на шафе, крыэйтар міжволі для сябе стаў занатоўваць усё, што парабіў за дзень, дадаючы і думкі, якія даймалі яго найчасцей. Пасля зусім сціплай вячэры ён лёг спаць і ўпершыню выспаўся, не ўбачыўшы за ноч ніводнага сну.

Надвор’е не падвяло. Раман асцярожна апусціў плыт на ваду, апусціўся сам і пасля колькіх секунд ваганняў адчаліў у той бок, дзе да патопу стаяў гіпермаркет. Вандроўка не была такой складанай, як уяўлялася раней. Аднак чым далей плыт аддаляўся, тым больш вусцішна рабілася. Даводзілася намаганнем волі адганяць ад сябе змрочныя думкі. Але яны вярталіся наноў. Маладзён спрабаваў узірацца ў ваду. Здавалася, што ён бачыў кроны дрэваў, абрысы дарогі і нерухомыя машыны. Баяўся памыліцца з пунктам прызначэння, але пашанцавала. Вада ў раёне гіпермаркета была надзвычай празрыстай. Сонца іграла ў ёй, высвечваючы зялёныя сцены гандлёвай забудовы. Кінуўшы якар, ролю якога выконвала звязка цяжкіх цаглін, прымацаваных да ланцугу, рызыкант распрануўся, сабраўся з духам і даў нырца.

Досвед затрымкі дыхання спатрэбіўся. Яго колішні рэкорд у шэсць хвілін сорак секунд быў пабіты падчас першага ж нырання ў гандлёвую залу. На пятнаццаць секунд. Гэта на паверхні пятнаццаць секунд здаюцца зусім мізэрнымі. Але пад вадой яны значаць вельмі шмат. Першае ныранне было, хутчэй, выведкай. Высветлілася, што мноства тавараў плавае пад столлю. Адтуль Крушэўскі і стаў іх амаль без разбору складаць у прыхоплены з сабою пакунак. Сэрца тахкала. Ён быў перакананы, што між іншага натрапіць і на тапельцаў. Гіпермаркет жа заўжды быў людным месцам. Але на здзіўленне ніводнага цела загіблых людзей маладзён так і не пабачыў. Ні ў часе першага нырання, ні ў часе астатніх дзевяці. Затое вяртаўся “дахаты”

з прыемным грузам. Шмат розных прадуктаў, пляшкі з алеем і пітной вадой, бутэлькі з алкаголем, запальніцы, батарэйкі. Раман быў цалкам задаволены выправай і нават гучна заспяваў заліхвацкую песню Rammstein.

Калі да млынкамбіната заставалася блізу паловы дарогі, пачуўся дзіўны гук. Ці то скрып, ці то звон. Адкуль ён ішоў, сказаць пэўна было цяжка. Але прапаў ён гэтак жа раптоўна, як і ўзнік. Крыэйтар перастаў спяваць і пастараўся веславаць больш жвава. Дабраўся без прыгод. Зладзіў баляванне. Згатаваў на агні мяса, напёк ляпёшак, падагрэў нутро тэкілай. Цуд! Калі забыць пра акалічнасці быцця. Раман забыў, але зусім ненадоўга. Увесь вечар і ноч ён корпаўся з прыймачом, спрабуючы злавіць хоць які-небудзь радыёсігнал. Нічога не атрымлівалася.

Вада па-ранейшаму не адступала. Маладзён нават стаў сумнявацца, ці не сон усё гэта. Шчыкаў сябе за розныя часткі цела, хлопаў далонню па шчоках, да крыві драпаў цвіком руку. Не прачынаўся. Пытанні заставаліся. Але заставаліся і праблемы. Ён мусіў амаль штодзённа паўтараць вылазкі да гіпермаркету. Чым далей, тым болей аддаваў перавагу кансервам і мінеральнай вадзе. Але як траплялася іншае, не грэбаваў. Не той час быў, каб грэбаваць. Што ні дзень расло ўсведамленне, што гэтыя выправы не могуць доўжыцца вечна, што ядомыя прыпасы скончацца і ён немінуча зазірне ў вочы ўласнаму голаду. Да таго ж блізілася восень. Сонца грэла не так, як раней. Халадала. Дажджоў, што праўда, не было. Не чакаючы, калі сапраўдныя пранізлівыя халады заспеюць яго знянацку, Крушэўскі наважыўся на рэйд па вопратку. Абшнырыў затопленыя пяціпавярхоўкі. Набраў куртак, палітонаў, цёплых ботаў. Высушыў і занёс у вартоўню. Можна было насіць у холад і ўкрывацца замест коўдры. Колькі кватэраў давялося яму аблазіць, але зноў жа нідзе ён не сутыкнуўся з тапельцамі.



Вольга Якубоўская

Сны былі зБольшага пустымі. Але іх пустата магла калі-нікалі разарвацца крыкам той самай спуджанай дзяўчыны. Аднойчы гэты крык быў зусім нясцерпным. Тады Раман прачнуўся, паляжаў з чвэрць гадзіны моўчкі, пасля чаго падняўся, уключыў такі ж маўклівы прыймач ды спусціўся на пляцоўку. Падыхаць паветрам. Ноч была цёмная, калі не лічыць зорных россыпаў і палавінкі Месяца ў небе. Вада патопу з прычыны нейкіх сваіх асаблівых якасцяў не адлюстроўвала ў сабе нічога. Яна была зусім чорнай, якой толькі можа быць чарната. Маладзён удыхаў начную восеньскую прахалоду і спрабаваў уявіць уласнае вызваленне з абцугоў навальных абставін. Чарната вады ў некалькіх кіламетрах ад млынкамбіната раптоўна перамянілася

Вольга Якубоўская



на доўгі шэраг светлых кругоў. Пачуўся знаёмы дзіўны гук. У вартоўні ажыў прыймач. Крыйэтар стаяў, разявіўшы рот, і не мог нават паварушыцца. Калі ж агоўтаўся і паспрабаваў крычаць, падводныя агні паспелі знікнуць. Прыймач заціх. Давялося вяртацца на канапу і змусіць сябе заснуць.

Раніцой выявілася, што крайняя частка млынкамбіната адваліласся, быццам яе нехта зрэзаў. Раман не стаў звязваць гэтае здарэнне з падводнымі агнямі, а наракаў на ваду, якая ўсё ніяк не сыходзіла. Нечакана ён злавіў сябе на думцы, што чакае зіму. Сапраўдная марозная зіма здавалася яму адзіным магчымым выратавальнікам. Можна было напакаваць вялікі пляцак усім самым неабходным, ускочыць на лыжы і падацца туды, дзе да патопу была вышэйшая кропка Беларусі. “Хто ведае, мо’ па дарозе я сустрэну і іншых людзей, якія перажылі патоп”, – меркаваў ён, працягваючы жыць у штодзённай пустэльніцкай руціне. Каб часу для лішніх думак і разваг не заставалася, Крушэўскі цалкам аддаваўся працы. Калі працы не было, ён хуценька прыдумваў сабе новую. З усяго, што было пад рукой, ён змайстраваў электрагенератар і вятрак. Магутнасць току была невялікай, але сія-тыя побытавыя патрэбы задавальняла.

Пасля аднаго з чарговых рэйдаў “па пакупкі” маладзён зразумеў, што з вартоўні знік шматок сала, які ён пакінуў на стале. Гэта яго вельмі здзівіла і нават насцярожыла. Хто быў у вартоўні падчас яго адсутнасці і чаму ён скраў толькі шматок сала, а не ўсе іншыя прыпасы? Крыэйтар абышоў свае нешматлікія ўладанні, але нікога не знайшоў. Мышэй там не вадзілася. Птушак пасля патопу нідзе не бачыў. Робячы абыход, Раман не мог адкаснуцца ад уражання, што нехта за ім сочыць. Ён некалькі разоў рэзка азіраўся, але за спінай нікога не было. Сабраўшыся вяртацца ў вартоўню, Крушэўскі пачуў сквіл і плёскат. Ён шпарка рынуўся на шум. Гучна яўкаючы, у вадзе боўтаўся кот. “Напэўна, зваліўся, небарака”, – толькі і заўважыў Раман, схапіў чарпак, якім ён раней цягаў зерне, і ўратаваў ката.

З наяўнай колькасцю прыпасаў лішні рот, нават кацінны, быў непажаданым. Але ад ката чалавек пазбаўляцца не хацеў. Не было зразумела, адкуль катафей увогуле з’явіўся. Раман разгадкі не шукаў. З катом ён пачуваўся не такім самотным. Звер адчуваў яго клапатлівасць і адказваў тым жа. Яўканнем ён паклікаў свайго новага гаспадара да адной з частак ацалелай пляцоўкі і стаў біць лапай па бардзюру. Гаспадар пацiснуў плячыма і зірнуў праз бардзюр у ваду. Зусім блізка плавалі даволі вялікія рыбы. Усміхнуўшыся і пагладзіўшы ката, Крушэўскі хутка змайстраваў нешта накшталт гарпуна і “адправіўся” на рыбалку. Улоў быў добры.

З катом яны вельмі пасябравалі. Бывала Пятніцкі (так Раман назваў свайго новага сябра) пачынаў весці курну і яўкаць, нібы нешта расказваў. Гаспадар яго ўважліва слухаў, раз-пораз выгукваючы: “Ды што ты кажаш!”, “Не можа быць”, “Ды ты гоніш, дружа”. Кот заўжды чакаў яго з выправаў. З прыпасаў за адсутнасцю гаспадара нічога не браў…

Адарваўшы позірк ад календара, Крушэўскі спусціўся ўніз. Пятніцкі пабег следам. Па ўсіх разліках павінна было моцна пахаладаць. Але яшчэ не выдалася ніводнай раніцы з шэранню на забудове ці ледзяной коркаю на вадзе. Чалавек стаяў і глядзеў на ваду. Успомнілася дзяўчына з яго сноў. Пачуўся знаёмы скрып. За кіламетр ад іх усплыла падводная лодка. Раман на міг здранцвеў, а потым стаў крычаць і махаць рукамі. З падлодкі адказалі тарпедай. Крыэйтар ледзь паспеў шмыгнуць у вартоўню, прыхапіўшы ката. Цэнтральная частка млынкамбіната знікала пад вадой. Субмарына знікла таксама.

Уладанні Крушэўскага зменшыліся. Плыт быў знішчаны выбухам. Заставалася сядзець у вартоўні, чакаць зіму і думаць. У сваіх думках маладзён прыкмеціў, што дзяўчына, якую ён так часта сніў пасля патопу, неспадзявана з’явілася ў фрагментах успамінаў таго злыбеднага жніўеньскага вечара. Паўстала разуменне, што тады між офісам і млынкамбінатам адбылося нешта страшнае. “Можа, таму я зараз тут – у анамаліі вады і часу?” – з дакорам пытаў сябе Раман, гладзіў ката і глядзеў праз вакно ў вечаровую далячынь, адкуль разам з поўняй мусіла б прыйсці зіма.

*восень 2012 г., Гомель*




## МАКУЛАТУРА

*(Працяг, пачатак у Макулатуры 3 – Без Галавы і Макулатуры 4 – Дзёньнікі па Англіі)*

13

Я апынуўся ў сябе на кватэры. Паглыбіўся ў курыцу й бульбяную салату. Пакатаў па дыване грэйпфрут. Я быў прыгнечаны. Увесь сьвет настроіўся супраць мяне. Потым забалабоніў тэлефон. Я выплюнуў недасмажанае курынае крыло й узяў слухаўку.

– Так?

– Містар Білейн?

– Так?

– Вы выйгралі бясплатнае падарожжа на Гаваі, – сказаў нехта.

Я паклаў слухаўку. Пайшоў на кухню, наліў гарэлкі зь мінэральнай вадой, дадаў соўс «табаска». Сеў са шклянкай, выпіў палову, і тут пагрукалі ў дзьверы. Стук быў дрэнны, але я, насуперак свайму правілу, сказаў: «Увайдзіце».

І дарма. Гэта быў сусед з 302–й, паштальён. У яго неяк дзіўна былі прымацаваны рукі. І мазгі таксама. І вочы глядзелі не зусім на цябе, а кудысьці табе за галаву. Такім чынам ты не зусім разумеў, дзе знаходзісься. Былі ў яго й некаторыя іншыя недахопы.

– Прывітаньне, Білейн, а мне ня знойдзецца выпіць?

– На кухні, налі сам.

– Зразумеў.

Ён пайшоў на кухню, насьвістваў «Дзіксі». Вярнуўся разьняволены, у абедзьвюх руках па шклянцы. Сеў насупраць мяне.

– Узяў з запасам, – сказаў ён, кіўнуўшы на шклянкі.

– Ведаеш, гэтая штука прадаецца ў многіх месцах, – паведаміў я. – Ты б назапасіўся.

– Ды плявацъ... Слухай, Білейн, я прыйшоў пагаварыць аб справе.

Ён выпіў тое, што было ў правай руцэ, разьбіў шклянку аб сьцяну. Гэтаму ён навучыўся ад мяне.

– Я прыйшоў дзеля таго, каб адкрыць нам шлях да лёгкай славы.

– Зразумела, – сказаў я. – Паслухаем.

– Мэлянхолік Майк. Бег на днях. Ідзе, як язык струплянага па дзявочай цыццы, – першую чвэрць мілі за 21 сэкунду. У гандлёвым заезьдзе дваццацітысячнікаў выйшаў на прамую на пяць карпусоў наперадзе, прайграў усяго паўтара корпуса. Зараз яго ставяць у пятнаццацітысячніках. Такога каня – на тры чвэрці мілі. Яны толькі пад хвост яму будуць глядзець. Стаўкі на яго пятнаццаць да аднаго! Пэўняк! Я бяру цябе ў долю, сябар!

– Навошта мяне ў долю? Чаму сам усё ня выйграеш?

Ён выпіў з другой шклянкі. Потым азірнуўся. Падняў шклянку.

– Стой! – сказаў я. – Разаб'еш гэтую шклянку – і ў цябе будуць два задніх праходы.

– Га?

– Падумай спачатку.

Паштальён ціха паставіў шклянку.

– Яшчэ ёсьць выпіць?

– Ты ведаеш дзе. І мненалі.

Ён пайшоў на кухню. Я адчуваў, што страчваю цярплівасьць. Потым ён вярнуўся, даў мне шклянку.

– Стой, – сказаў я, – я вып'ю тваю.

– Як гэта?

– У ёй мацней.

Ён даў мне іншую шклянку, потым сеў.

– Дык я цябе пытаю, скараход, навошта мяне ў долю?

– Ды вось, – сказаў ён.

– Ну, далей?

– У мяне з лавандосам туга. Паставіць няма чаго. Але калі выйграем, я табе аддам з выйгрышу.

– Нецікава кажаш.

– Слухай, Білейн, мне трэба самую драбніцу.

– Колькі?

– Дваццаць зялёных.

– Гэта велізарныя грошы.

– Дзесяць зялёных.

– Ну ты разьбегся.

– Добра, пяць зялёных.

– Што?

– Два зялёных.

– Валі адсюль!

Ён дапіў і ўстаў. Я таксама дапіў. Ён стаяў. Ён сказаў:

– А чаго гэта грэйпфруты на падлозе?

– А мне так падабаецца.

Я ўстаў і падышоў да яго.

– Пара сыходзіць, прыяцель.

– Сыходзіць? Ды ну? Пайду, калі пажадаю!

Ён знахабіўся ад выпітага. Гэта бывае. Я заехаў яму кулаком у жывот. А на кулаку быў медны кастэт. Ледзь наскрозь не прайшоў, халера. Ён упаў.

Я адышоў ды згроб з падлогі бітае шкло. Потым вярнуўся, адкрыў яму рот і кінуў шкло туды. Потым пацёр яму шчокі й трохі паляпаў па іх. Зяпа ў яго пачырванела.

Тады я вярнуўся да перапыненага піцьця. Прайшло, напэўна, хвілін 45, і паштальён заварушыўся. Перакаціўся на жывот, выплюнуў колькі шкла й папоўз да дзьвярэй. Выгляд у яго быў нікчэмны. Дапоўз да самых дзьвярэй. Я адкрыў іх, і ён папоўз далей да сваёй кватэры. У наступны раз трэба прыглядаць за ім. Я зачыніў дзьверы.

Я сеў і знайшоў у попельніцы згаслую цыгару. Запаліў яе, зацягнуўся, закашляўся. Паспрабаваў яшчэ раз. Даволі прыемна.

Вырашыў больш нічога сёньня не рабіць.

Жыцьцё зношвае чалавека, зношвае да дзірак.

Пераначуем – болей пачуем.

14

Я зноў прыйшоў у краму да Рэда. Зноўку заняўся справай Сэліна. Гіпадром быў зачынены, і дзень быў пахмурны. Рэд прастаўляў цэны на рэдкіх кнігах.

– Сходзім да Мусо? – прапанаваў ён.

– Не магу, Рэд. Я, здаецца, ем без перапынку. Паглядзі на мяне.

Я расхінуў пінжак. Кашуля абцягвала маё пуза. Адзін гузік адскочыў.

– Табе трэба адсмактаць гэты тлушч. У цябе будзе інфаркт. Тлушч адсмоктваюць праз трубку. Сточыш яго ў банку, будзеш глядзець, і ён табе будзе нагадваць, каб ты не захапляўся пончыкамі з павідлам.

– Я падумаю. Не жадаеш грэйпфрута?

– Грэйпфрута? Ад яго не тлусьцеюць.

– Ведаю, але раніцай я пасьлізнуўся на ім, калі ўстаў. Грэйпфруты небясьпечныя.

– А дзе ты спаў, у халадзільніку?

Я ўздыхнуў.

– Слухай, давай зьменім тэму. Ты ведаеш таго пашавэлка, што падобны да Сэліна?

– А, гэтага...

– Гэтага. Не заходзіў тут?

– З таго разу – не. Ты сочыш за гэтым гусаком?

– Можна сказаць, так.

І тут ён уваходзіць, лёгкі на памоўцы. Сэлін. Пралез міма нас, прайшоў па праходзе, выцягнуў кніжку. Я падышоў да яго бліжэй. Зусім блізка. Ён трымаў падпісаны экзэмпляр «Калі я памірала». Тут ён заўважыў мяне.

– У ранейшы час, – сказаў ён, – жыцьцё ў пісьменьнікаў было цікавей за іх пісаньні. А сёньня – ні жыцьцё не цікавае, ні пісаніна.

Ён паставіў Фолкнэра на месца.

– Вы тут паблізу жывяце? – спытаў я.

– Магчыма. А вы?

– Калісьці ў вас быў французскі акцэнт, правільна? – спытаў я.

– Магчыма. А ў вас?

– Нічога падобнага. Слухайце, вам ніхто не казаў, што вы да кагосьці падобны?

– Кожны з нас больш ці менш падобны да кагосьці. Слухайце, у вас ёсьць цыгарэты?

– Вядома.

Я палез за пачкам.

– Калі ласка, – сказаў ён, – выньце адну цыгарэту, запаліце й паліце яе. Каб быў занятак.

Ён пайшоў прэч.

Я запаліў цыгарэту, зацягнуўся. Потым пайшоў за ім. Кіўнуў на разьвітаньне Рэду й выйшаў на вуліцу. Сэлін якраз садзіўся ў «Фіят» 89-га года. А ззаду яго стаяла – што? Ззаду яго стаяў мой «Фольксваген». Якая ўдача! Вось і ня вер пасьля гэтага ў лёс. Упершыню за колькі месяцаў мне ўдалося паставіць машыну ля ходніка! Я ўскочыў у яе, даў па газах і памчаўся за ім.

Ён ехаў на ўсход па Галівудзкім бульвары.

Лэдзі Сьмерць, падумаў я, да вашых паслуг.

Я б упусьціў яго ля наступнага сьветлафора, калі б не праскочыў пад чырвонае сьвятло. Без ускладненьняў, толькі пажылая дама ў «кадылаку» брудна аблаяла мяне. Я ўсьміхнуўся.

Неўзабаве мы з Сэлінам апынуліся на Галівудзкай шашы, сонца прарвалася скрозь аблокі. Я трымаў Сэліна ў полі зроку. Я адчуваў сябе выдатна. Можа быць, пайду, і мне высмакчуць тлушч праз трубку. Я яшчэ малады чалавек. Усё наперадзе.

Далей Сэлін паехаў па Партовай шашы.

Потым – праз Санта-Моніку.

Потым – праз Сан-Дыега. На поўдзень.

Потым Сэлін збочыў з шашы, і я павярнуў за ім. Мясцовасьць здавалася знаёмай. Я ехаў прыкладна на паўквартала ззаду. І спадзяваўся, што ён не асабліва пазірае ў люстэрка.

Потым я ўбачыў, што ён прытармажвае й спыняецца. Я пад’ехаў да крайка, спыніўся й стаў назіраць.

Ён вылез з машыны, прайшоў некалькі дамоў, потым, азіраючыся цераз плячо, перасёк вуліцу. Спыніўся, зноў азірнуўся й рушыў па дарожцы да дому. Падняўся на ганак, азірнуўся й пастукаў. Дом быў вялікі й здаўся мне знаёмым.

Дзьверы адчыніліся. Сэлін увайшоў.

Я крануўся зь месца й павольна праехаў міма. Гэта быў дом Джэка Баса. Цікавае кіно. Было толькі 14:30. Чырвоны «Мэрсэдэс» Сіндзі стаяў перад домам.

Я аб’ехаў вакол квартала й спыніўся на ранейшым месцы.

Зараз я заб’ю двух зайцаў. Я выкрыю Сэліна й прышчучу Сіндзі.

Я іх не падганяў. Даў ім дзесяць хвілін.

Калі я вучыўся ў сярэдняй школе, адна настаўніца спытала нас: «Кім вы жадаеце стаць, калі вырасьцеце?» Амаль усе хлопчыкі сказалі, што хочуць быць пажарнікамі. Гэта глупства, можна абгарэць. Некалькі хлопцаў сказалі, што хочуць быць лекарамі або адвакатамі, але ніводзін не сказаў: «Я хачу быць шпегам». І вось я шпег. Так, а калі чарга дайшла да мяне, я адказаў: «Ня ведаю...»

Прайшло дзесяць хвілін. Я схапіў маю міні-відэакамэру, расхінуў дзьверцы машыны й накіраваўся да дому. Мяне прабірала лёгкая дрыготка. Я глыбока ўздыхнуў і падышоў да дзьвярэй. З замком складанасьцяў не было. Праз 45 сэкунд я ўжо быў усярэдзіне. Прайшоў пярэднюю, потым пачуў галасы. Падкраўся да дзьвярэй.

– Табе трэба гэта... ты сама ведаеш...

– Я... – гэта казала Сіндзі. – Я ня ўпэўнена... А што, калі Джэк дазнаецца?

– Не дазнаецца...

– Джэк ашалелы...

– Ён не пазнае. Гэта на тваю ж карысьць...

Сіндзі засьмяялася.

– На маю карысьць?.. А табе нічога не перападзе, так?

– Вядома... Ну-ка, ну-ка, вазьміце яго ў рукі... Пачынаецца адсюль...

Я пачакаў некалькі сэкунд, штурхалём расчыніў дзьверы ды ўварваўся ў пакой з відэакамэрай. Ужо ўключанай і наведзенай на рэзкасьць.

Яны сядзелі за кававым столікам, і Сіндзі як быццам падпісвала нейкія паперы. Яна падняла галаву й закрычала.

– Цьху ты, – сказаў я.

Я апусьціў камэру.

– Што яшчэ за халера? – спытаў Сэлін. – Ты ведаеш гэтага тыпа?

– Першы раз бачу!

– А я ведаю, – сказаў Сэлін. – Швэндаецца ў кніжнай краме й задае дурныя пытаньні.

– Я выклікаю паліцыю! – сказала Сіндзі.

– Стойце, – сказаў я, – я ўсё патлумачу.

– І суладней, – сказала Сіндзі.

– Суладней, – сказаў Сэлін.

Я нічога не мог прыдумаць. Толькі стаяў.

– Я выклікаю паліцыю, – сказала Сіндзі, – неадкладна!

– Стойце, – сказаў я. – Мяне наняў ваш муж, Джэк Бас. Я дэтэктыў.

– Наняў? Навошта?

– Каб вас накрыць.

– Мяне накрыць?

– Так.

– Я афармляў гэтай даме страхоўку, – сказаў Сэлін, – а вы ўрываецеся з камэрай.

– Прабачце, адбылася памылка. Калі ласка, дазвольце мне яе выправіць.

– Як вы яе выправіце, халера вас бяры? – спытаў Сэлін.

– Я пакуль ня ведаю. Мне жудасна шкада. Я што-небудзь прыдумаю, каб паправіць справу. Слова гонару.

– Гэта нейкі вырадак, – сказала Сіндзі, – ляснуты на галаву.

– Я прашу прабачэньня, але мне трэба йсьці. Я зьвяжуся з вамі й аб усім дамоўлюся.

– Мы здадзім вас паліцыі! – заявіла Сіндзі.

– Я павінен ісьці, – сказаў я.

– Ну зараз, – сказала Сіндзі, – нікуды вы ня пойдзеце!

Я павярнуўся да дзьвярэй, а яна націснула званок. Перада мной зьявілася прыстойная копія Кінг-Конга. Ён быў страшыдлам. Ён павольна рухаўся да мяне.

– Гэй, карузьлік, – сказаў я яму, – ты любіш цукеркі?

– Смарчок, – сказаў ён, – ты мая цукерка!

– А цацкі? Ты якія цацкі любіш?

Кінг-Конг ігнараваў маё пытаньне. Ён павярнуўся да Сіндзі.

– Мне забіць яго?

– Не, Брустар, але замардуй яго так, каб ён некаторы час менш варушыўся.

– Зараз.

Ён рушыў да мяне.

– Брустар, – сказаў я, – ты за каго галасаваў на прэзідэнцкіх выбарах?

– Га?

Ён устаў, задумаўся. Я ўзяў відэакамэру й шпурнуў яму наўпрост у гульнявую пляцоўку. Яна трапіла ў цэль. Ён сагнуўся, схапіўся за прычыннае месца. Я падбег, падняў камэру й трэснуў яго па патыліцы. Раздаўся звон шкла.

Кінг-Конг паваліўся. Ён упаў тварам на канапу й адключыўся. Палова яго цела ляжала на канапе, а іншая недзе яшчэ.

Я падабраў з падлогі былую камеру.

Я паглядзеў на Сіндзі.

– Я ўсё роўна вазьму цябе за сраку.

– Ён вар’ят! – сказала Сіндзі.

– Па-мойму, вы маеце рацыю, – сказаў Сэлін.

Я крута павярнуўся й выйшаў прэч. Яшчэ адзін страчаны дзень.

## 15

На другі дзень я сядзеў у габінэце. Здавалася, усе справы зайшлі ў тупік. Ноч я правёў жудасна: увесь час піў, каб заснуць. Але сьцены ў маёй кватэры тонкія. Было чуваць, чым займаліся суседзі...

– Дзетка, гэтая гусіная шыйка начыненая ліпкім белым крэмам, і, калі яго ня выпусьціць вонкі, мяне хопіць удар ці што-небудзь гэткае!

– Гэта твая праблема, малыш.

– Але мы жанатыя!

– Ты занадта выродлівы.

– Га? Што? Ты ніколі мне не казала.

– Я толькі што вырашыла.

– Крэм б’е мне ў галаву! Мне трэба нешта рабіць!

– Толькі безь мяне, сьвідравальшчык!

– Вось як? Добра. Дзе котка?

– Котка? Не, даўбак, толькі не Цыганачку!

– Дзе гэтая чортава котка? Я бачыў яе хвіліну таму!

– Ня сьмей! Ня сьмей! Маю Цыганачку!

Гарэлка не прынесла мне сну. Я толькі сядзеў і глактаў. Бяз сэнсу.

Дык вось, як я ўжо сказаў, наступнай раніцай я сядзеў у сябе ў габінэце. Я адчуваў сябе зусім нікчэмным. Я нікчэмны. Вакол мільярды жанчын, і ніводная не пагрукае ў мае дзьверы. Чаму? Я небарака. Я дэтэктыў, нічога ня здольны вырашыць. Я паназіраў за мухай, якая паўзла па маім стале, і падрыхтаваўся адправіць яе да прабацькоў.

І раптам я празерыў!

Я ўскочыў.

Сэлін прадаваў Сіндзі страхоўку! Яны застрахавалі жыцьцё Джэка Баса! Зараз яны яго цюкнуць – і такім чынам, каб гэта выглядала натуральна! Вось яны што задумалі! Я трымаў іх за яйцы. Гэта значыць, за яйцы я трымаў Сэліна, а Сіндзі... Ну, яе я вазьму за сраку. Джэку Басу пагражае небясьпека. А Лэдзі Сьмерці патрэбен Сэлін. І Чырвоны Верабей да гэтага часу ня знойдзены. Але я адчуваў, што справа пайшла. Да чагосьці большага. Я выняў руку з кішэні й узяў слухаўку. Потым паклаў яе. Каму гэта, халера ясная, я сабраўся тэлефанаваць? Я ж ведаў, які час. А Джэк Бас укляпаўся дужа. Трэ было падумаць. Я пасправаваў. Муха ўсё яшчэ соўгалася па стале. Я скруціў «Праграму бегавішчаў», пляснуў па ёй, прамахнуўся. Няўдалы дзень. І тыдзень. І месяц. І год. І жыцьцё. Будзь яно праклятае.

Я адкінуўся ў крэсьле. Нараджаесься, каб памерці. Нараджаесься, каб жыць, як загнаны бурундук. Дзе харысткі? Чаму такое пачуцьцё, быццам я прысутнічаю на ўласным пахаваньні? Дзьверы расчыніліся. На парозе стаяў Сэлін.

– Ты, – сказаў я. – Я ведаў, што ты прыйдзеш.

– Знаёмая песьня, – сказаў ён.

– Ты ніколі ня грукаеш?

– Гледзячы калі, – сказаў Сэлін. – Ня супраць, калі сяду?

– Давай, толькі бліжэй да справы.

Ён залез у маю цыгарную скрынку, вынуў цыгару, зьняў налепку, адкусіў кончык, узяў запальніцу, запаліў, выдзьмуў раскошны слуп дыму.

– Ведаеш, гэтыя штукі прадаюць, – сказаў я.

– А што не прадаюць?

– Паветра. Але хутка будуць. Дык чаго табе трэба?

– Разумееш, сябар мой...

– Не марудзі.

– Ну добра, добра ... Значыць так...

Сэлін паклаў ногі на мой стол.

– Прыгожыя на табе туфлі, – сказаў я. – У Францыі купляў?

– Францыя-шманцыя, якая розьніца?

Ён зноў выдзьмуў дым.

– Ты тут навошта? – спытаў я.

– Добрае пытаньне, – сказаў Сэлін. – Яно грукоча са стагодзьзя ў стагодзьдзе.

– Грукоча?

– Ды не прыдзірайся ты да словаў. Паводзіш сябе як чалавек з гаротным дзяцінствам.

– Дык значыць так, – сказаў ён. – Ты сядзіш у глыбокай задніцы прынамсі па двух пунктах. Узлом і пранікненьне. Напад і зьбіцьцё.

– Што?

– А тое, што Брустар зараз еўнух. Ты разьбіў яму яйцы сваёй камэрай, яны падобныя да двух сушаных фінікаў. Цяпер ён можа сьпяваць каларатурным сапрана.

– І?

– Нам вядома месцазнаходжаньне злачынцы, які ажыцьцявіў узлом і пранікненьне й пазбавіў іншую асобу першасных мужчынскіх прыкмет.

Ён час ад часу ловіць у люстэрку ейны позірк. Зьбіваецца і пачынае ўсё спачатку.

Жучка залагоджана дрэмле каля зэдліка, часам прачынаючыся, каб выдаць доўгае пранізьлівае скуголеньне.

– У вас усё бліскучае. Нават чаравікі, – раптам кажа Антаніна Васільеўна.

Віктар удае, што ня чуе, але тым ня менш нібы між іншым кідае позірк на свае чаравікі.




Звычайныя лакаваныя танцавальныя мужчынскія чаравікі. Паціскае плячыма і працягвае танцаваць.

Сіняя атласная кашуля намакае ад поту на сьпіне і пад пахамі.

Мінае гадзіна – ён бесьперапынна танцуе. Па колькі разоў паўтарае адныя і тыя ж рухі. Кружляе. Кідаецца нагамі ўперад і ўбок. Круціць тазам.

– Вы верціце задніцай горш, чым якаясь… прапашчая жанчына, – зноў азываецца Антаніна Васільеўна.

– Вам не падабаецца?

Антаніна Васільеўна запінаецца.

– Ну, ня ведаю. Проста гэта выглядае непрыстойна.

– Танец – гэта заўсёды непрыстойна.

– Я калісьці танцавала ў народным ансамблі. Там было ўсё прыстойна. Я маю на ўвазе – мы не вярцелі задніцамі.

Віктар нічога не адказвае. Антаніна Васільеўна ніякавата перабірае пальцамі.

– Але я ня доўга танцавала. Кіраўнічка ансамбля сказала, што я не падыходжу. Сказала, што затоўстая. Хаця яна сама важыла ня меней ста кілаграмаў.

Жучка сонна падымае галаву і скуголіць.

– Вы яе прабачце, – апраўдвае Жучку Антаніна Васільеўна. – Жучка рэдка слухае музыку. Яна больш любіць чытаць.

Надзя – закадычная сяброўка Антаніны Васільеўны – прыходзіць раз-два на месяц, каб выпіць чаю і праверыць, ці ўсё ў парадку. Антаніна Васільеўна адчувае, калі Надзя мае

прыйсьці, фізычна. Антаніна Васільеўна рэагуе на Надзю так, як некаторыя гіпэртонікі на зьмену надвор'я.

– Надзежда! Якая неспадзяванка! – выгукае з парога Антаніна Васільеўна.

Надзя стала Надзеждай дужа даўно. У часы сваёй маладосьці яна бесьперапынна напявала песьню «Надзежда – мой компас зямной».

– Як пажываеш? – Надзя шпаркім крокам заходзіць у вітальню, прыладжваецца ў крэсла каля вакна і працяжна ўздыхае. – Ну, расказвай, – кажа.

Антаніна Васільеўна ведае сцэнар беззаганна. Яна прысаджваецца на канапу поруч з Надзяй.

– А што расказваць? Усё па-старому.

Надзя толькі гэтага й чакае.

– Памёр Арцёмаў і Баляслаўскі. Арцёмаў ад інфаркту, Баляслаўскі ад цукровага дыябету.

Антаніна Васільеўна цьмяна прыгадвае Арцёмава і Баляслаўскага.

– Заўваж, – працягвае Надзя, – паміраюць іменна мужчыны. Іменна мужчыны.

– Па статыстыцы яны меней жывуць, – падтрымлівае размову Антаніна Васільеўна.

– Пры чым тут статыстыка, Антаніна! Мужчыны паміраюць па дзьвюх прычынах. Першая – іх заядаюць жоны, як, напрыклад, Арцёмава. Падумаць толькі – здаровы быў мужчына. Спортам займаўся! Другая прычына – алькаголь і няправільны образ жызьні.

Надзін позірк шугае па пакою ў пошуках кампраматаў. Надзя ўсё ведае і паўсюль пасьпявае. Надзя – сакратар Бога на зямлі.

– Можа, чаю, Надзежда?

– Давай. Толькі не забудзь дзьве лыжкі цукру. Не разумею, як можна піць чай бяз цукру.

Яны пераходзяць на кухню. Надзя бесцырымонна зазірае ў халадзільнік і ў кошык для сьмецьця, а Антаніна Васільеўна ўдае, быццам нічога не заўважыла. Усё ідзе па сцэнары.

– А ў цябе што новага? – пытаецца Антаніна Васільеўна, заліваючы чайнік з заваркаю кіпнем.

– Да так, арганізоўваю памаленьку сацыяльную жызьнь.

– Сацыяльную жызьнь?

– Уяві сабе. Дыскатэка для старычкоў. У пятніцу. Ты абязацельна мусіш быць.

Антаніна Васільеўна сьмяецца.

– Надзежда! Што ты прыдумала?! Якая дыскатэка?!

– Да ты мне яшчэ дзякаваць будзеш! – Надзя абражана надзьмувае малюсенькія выцьвілыя вусны. – Тры месяцы месца выбівала! Усё такое, жывая музыка, мужчын і жэншчын пароўну, мужчын дажа больш…

– Мужчыны ж паўміралі ўсе…

– Антаніна, не яхіднічай! Усе знаёмыя проста ў захапленьні. Даша Мечнікава сабе новы ўбор сьпецыяльна купіла. Рыхтуюцца бабы па поўнай праграме. Завіўкі, амаладжальныя маскі для ліца…

– Ты здурэла, Надзежда.

– А чаго здурэла?! Я цябе, Антаніна, не панімаю. Калі шэсьцьдзесят лет, то што – скласьці на грудзях рукі і сьмерці дажыдацца?! А тут – рэальная магчымасьць знайсьці сабе на старасьць мужыка.

Антаніна Васільеўна ад падскоквае ад хваляваньня.

– Ды на якога чорта ён мне здаўся?! Усё жыцьцё без мужыка абыходзілася, дык каб цяпер у мяне крыша паехала?!

– Не крычы, Антаніна, – Надзя складае рукі разам, быццам у малітве. – Я табе вось што скажу. У старасьці мужык нават больш патрэбны, чым у маладосьці. У маладосьці чых-пых, сама сабе туда-сюда – і добра. А на старасьць хочацца, каб хтосьці побач быў. Ня мне табе гаварыць. Сама знаеш. Толькі ў позу не панятна для каго стала.

– Пі чай, Надзежда, а то астыне.

Яны пэўны час моўчкі п'юць чай. Два чорныя крумкачы сядзяць на электрычных дратах за вакном. Антаніне Васільеўне добра бачна іхнія пыскі і дзюбы.

Надзя раптам, як гуска, выцягвае шыю, прыслухваючыся да чагосьці.

– Антаніна, – выгукае яна, – як ты гэта церпіш?! Музыка так грыміць, што ажно люстра трасецца!

Антаніна Васільеўна асьцярожна ставіць кубак з чаем на сподачак.

– Я бы на тваім месцы міліцыю выклікала!

– Я й выклікала, – спакойна кажа Антаніна Васільеўна. – Не дапамагае.

– Божа, якая маладзёж пайшла! Слухай, хочаш, я пайду туды і такое ім зладжу, што больш ніколі музыкі не захочацца!

– Ня трэба, Надзежда, я сама з гэтым разьбяруся.

– Ты заўжды была такая, – Надзя зноў складае ў малітве рукі. – Надта інтэлігентная, каб сябе абараніць.

Надзя апошні раз прабягаецца па кватэры, штосьці фіксуе сабе ў сваёй маленькай галаве, прыцмокваючы, і рушыць далей у пошуках новых плётак і сьмерцяў.

– Глядзі мне, Антаніна, як ня прыйдзеш на маю дыскатэку – абіжуся па гроб жызьні. У гэтую пятніцу. Я табе яшчэ нагадаю па тэлефоне. Ня хочаш мужыкоў, то хоць старых знаёмых пабачыш. А то сядзіш тут, як тхор у нары.

– Дзякуй богу, – мармыча сабе пад нос Антаніна Васільеўна, калі за Надзяй зачыняюцца дзьверы.

Але на спакой спадзявацца яшчэ зарана. Да вечара Антаніна Васільеўна будзе сьпяваць «Надзежда – мой компас зямной».

Антаніна Васільеўна спачатку нават не зразумела, што адбываецца.

Яна добра паспала, у яе нічога не балела, нічога ня сьнілася. Яна ўстала з ложка і па звычцы падышла да вакна. Упэўніцца ў тым, што сьвет яшчэ на месцы. І ён быў на месцы, але белы.

– Жучка, сьнег выпаў, – ціха кажа Антаніна Васільеўна.

Жучка з радасным гаўканьнем запрыгвае на падваконьне.

– Цяпер будзе лягчэй, – працягвае Антаніна Васільеўна. – Я люблю сьнег. Люблю зіму. Узімку ўсе людзі робяцца дзецьмі.

Антаніне Васільеўне страшэнна хочацца каляднай ежы. Куцьці і варэнікаў зь сялёдкай. Разам. Адной лыжкай куцьцю, другой – варэнік зь сялёдкай. Антаніна Васільеўна каўтае сьліну. Яна ўжо сто гадоў ня ела гэтых варэнікаў.

– Жучка, апранайся! Мы ідзем!

Антаніна Васільеўна наўсьцяж адчыняе шафу з вопраткай. Шафа забіта блузамі, сукенкамі і швэдрамі розных гадоў і фасонаў.

Так, думае Антаніна Васільеўна, сёньня я апрануся па-сьвяточнаму. Сёньня сьвята.

– Віктар, я вас віншую, – урачыста шчабеча Антаніна Васільеўна.

– З чым? – ляніва пытаецца Віктар.

– Зь першым сьнегам.

Антаніна Васільеўна падабаецца сабе. Яна становіцца пасярод люстэркавага пакою, разглядваючы свой убор з усіх бакоў.

– Я вас не пазнаю, Антаніна Васільеўна, вы апрануліся як сапраўдны клоўн! Што за блузка?! Што за спадніца?! Вы сабраліся ў бардэль?

Віктар насалоджваецца кожным сваім словам. Вока за вока, думае ён.

– А басаножкі? На вуліцы зіма, а вы ў басаножках. Антаніна Васільеўна, з вамі ўсё добра?

– Хлопча, сёньня ў мяне дужа добры настрой, і вам ня ўдасца яго сапсаваць. Хутчэй наадварот.

– То бок вы МНЕ сапсуеце настрой?

Антаніна Васільеўна прапускае ягоную рэпліку міма вушэй.

– Мне прыйшла ў галаву геніяльная ідэя, Віктар.

– Я ўжо яе баюся!

– Ну чаго вы так адразу, – Антаніна Васільеўна прысаджваецца на зэдлік. – Вы мне падабаецеся акурат за сьмеласьць.

Віктар выключае магнітафон.

– Разумееце, – пачынае Антаніна Васільеўна, – мяне заўсёды баяліся. Вы не пыталіся, а я вам не казала… Я амаль сорак гадоў прапрацавала ў школе…

– Я мусіў бы здагадацца, – Віктар корчыць тэатральную грымасу. – Вы абсалютна неадэкватная. Кажуць, настаўнікаў са стажам не дапускаюць сьведчыць у суд. Надта зьменлівы псыхалягічны стан…

– Малады чалавек! Сачыце за сваім языком!

Антаніна Васільеўна нэрвова ёрзае на зэдліку.

– Ня стойце слупом. Прысядзьце, – кажа.

Віктар абапіраецца лакцямі на падваконьне.

– У гэтым пакоі адзін зэдлік, і вы занялі яго.

Ён гарэзьліва ўсьміхаецца, і Антаніна Васільеўна заўважае, што ёй гэта падабаецца.

– Я выкладала літаратуру.

– Ого! Я думаў матэматыку. Як правіла, матэматычкі самыя нясьцерпныя. Тая, што вучыла мяне, яе звалі Міраслава Мікалаеўна, дык вось – яна любіла біць дзяцей указкай па пальцах.

– Я ніколі ня біла сваіх вучняў! – выбухае Антаніна Васільеўна і ўжо спакойней дадае: – Яны й без таго мяне баяліся.

– Я лічу, што гэта няправільна.

– Я таксама так лічу. Але вучні ўсё роўна баяліся. Хоць я ніколі нават голас не павышала. Я была добрым настаўнікам.

– Магу сабе ўявіць.

У Антаніны Васільеўны гараць шчокі.

«Калі б ён мог пабачыць мяне тады, сорак гадоў таму, ці спадабалася б я яму?»

Антаніна Васільеўна ўстае з зэдліка і адварочваецца. Бачыць у люстэрках адлюстраваньне ягонага адлюстраваньня. Яно зь цікавасьцю за ёй сочыць.

– Антаніна Васільеўна, вы так роўна трымаеце сьпіну, што шмат хто з бальнікаў вам бы пазайздросьціў.

– Мая нябожчыца бабця штурхала мяне кулачкамі ў сьпіну, калі я сутулілася. Я дагэтуль часам адчуваю гэтыя кулачкі.

Антаніна Васільеўна глыбока ўдыхае.

– Але вось што я вырашыла… падумала. Я буду выкладаць вам літаратуру.

Віктар зьдзіўлена акругляе вочы.

– Вось жа вы за сваімі танцамі ўсё прафукалі, хіба не? Сумняюся, што вы прачыталі болей чым дзесяць кніжак. Так, я даю вам ня болей за дзесяць кніжак.

– Антаніна Васільеўна, але…

– Гэта ня будзе займаць шмат часу. Колькі гадзінаў на тыдзень. Вы не ўяўляеце, як шмат цікавага я магу расказаць. Літаратура – гэта сьветапогляд. Безь літаратуры вы ніхто. Вош дражашчая.

Віктар маўчыць.

– Ня думайце, нават для таго, каб танцаваць, трэба ведаць літаратуру. Вы ня зможаце безь літаратуры добра танцаваць. Танцы – гэта ня мова цела, як вы сабе думаеце, гэта мова… душы…

О божа, што я пляту, думае Антаніна Васільеўна.

– Але мне не патрэбныя ўрокі літаратуры.

Антаніна Васільеўна глядзіць на яго і запэўніваецца, што гэта праўда. Ён не жартуе. Яму не патрэбныя ўрокі літаратуры. Ён гаворыць сур'ёзна і канчаткова.

Антаніна Васільеўна здрыгаецца нібы ад удару. Чуе, як кроў сьцякае ў ногі, чуе, як драбнюткія кулачкі цярэбяць сьпіну, і голас бабці аднекуль зь сярэдзіны: «Ты, варожэ крывавы, табе толькі гулькі ў галаве».

Дурышча, думае Антаніна Васільеўна, якая ж я дурышча!

Яна моўчкі кідаецца прэч з пакою, а Жучка, выскаліўшы зубы, тройчы люта гаўкае на Віктара і тапоча ўсьлед за гаспадыняй.

– Ты прыйшла! Маладзец! Я знала, што ты прыйдзеш!

Надзя абдымае Антаніну Васільеўну. Ад Надзі патыхае задушлівым малінавым пахам за дзесяць грывень.

– Як табе наша дыскатэка? Супер, праўда?

Антаніна Васільеўна аглядае зь дзясятак баб рознага стану захаванасьці, з кавенькамі і без, размаляваныя, урачыстыя, падобныя да манструозных лялек. Дзяды – іх пяцёра – ніякава стаяць слупамі побач, намагаючыся схавацца адзін за аднаго. Яшчэ двое – музыкі. Сядзяць на мініятурных раскладных зэдлічках і граюць на парэпаных баянах.

– І музыка жывая. Усё, як мае быць, – гаворачы гэта, Надзя квітнее і пахне яшчэ мацней.

Музыкі заводзяць якісьці настальгічны венскі вальс. Дзьве бабы, наўрад ці знаёмыя між сабой, без аніводнага слова, без анінайменшай эмоцыі на абліччы, бяруць адна адну пад рукі і, як быццам драўляныя, тут жа, на месцы, перасоўваюць ногі, імітуючы танец.

– Я ня думала, што дыскатэка, як ты, Надзежда, гэта называеш, будзе ў пераходзе мэтро, – кажа Антаніна Васільеўна.

Надзя загадзя падрыхтавала сабе контраргумэнты.

– Дарагуша, – выкрыквае яна, – гэты пераход на «Тэатральнай» – самае падыходзячае месца для нашай дыскатэкі! Паглядзі – нібы сапраўдная бальная заля. Паўсюль мармур, падлога што нада, калоны. А якая акустыка – толькі паслухай!



*Ганна Бундзелева*

Венскі вальс у разгары. Іншыя бабы, беручы прыклад з найсьмялейшых, таксама разьбіліся на пары і танчаць. Дзяды нэрвова паляць у старонцы.

– Апроч таго, – працягвае Надзя, – у гэтым пераходзе ніколі не бывае людна.

– Дзякуй богу, – мармыча Антаніна Васільеўна.

Адзінокія пасажыры, час ад часу заходзячы і выходзячы з мэтро, на момант спыняюцца, заварожана гледзячы на дзейства.

– Яны глядзяць на нас, як на заапарк, – кідае Антаніна Васільеўна.

– Да яны завідуюць, Антаніна! Паглядзі, як бабы разгуляліся. Нічо-нічо. Зараз і мужыкі пойдуць у абарот. Кстаці, гэта яшчэ адна прычына, чаму я вырашыла рабіць дыскатэку тут. Каб нагадаць обшчэству пра нас – старычкоў. Каб обшчэства пабачыла нас. Што мы яшчэ ня кончаныя.

– Але мы ўжо кончаныя, Надзежда…

Згорблены дзядок зь юрлівай усьмешкай вынырвае перад Антанінай Васільеўнай:

– Патанцуем, гражданачка?

– Я не танцую, – сувора адрубае Антаніна Васільеўна.

– Адмаўляць дуж-ж-жа некультурна, – дзядок усьміхаецца яшчэ юрлівей, усёй сваёй пажоўклаю ўстаўной сківіцай, і настойліва цягне Антаніну Васільеўну за локаць.

Надзя па-змоўніцку ёй падміргвае.

– Вы не разумееце, што вам гавораць? – Антаніна Васільеўна перакрыквае вальс. – Я не танцую.

– Але чаму? Я вам ня нраўлюсь?

– У мяне замок на правым боце разышоўся!

Кавалер імгненна пакідае Антаніну Васільеўну ў спакоі і вяртаецца да зануджанага мужчынскага таварыства.

– Ты ж настаўніца, Антаніна, – шэпча Надзя.

Яна пачырванела як рак, гатовая прыдушыць Антаніну Васільеўну голымі рукамі.

– Ты пазорыш мяне як арганізатара.

– Але я сказала праўду, Надзежда, паглядзі, – Антаніна Васільеўна нахіляецца і дэманструе Надзі заіржаўлены замок на правым боце.

– Не юродствуй! Ты ўжо зусім псіхічная?

– А што я такога сказала?

– Ну знаеш, Антаніна!..

Надзя паварочваецца і ідзе да адфутболенага Антанінай Васільеўнай дзядка.

– Можна вас запрасіць патанцаваць, Канстанцін Канстанцінавіч?

– Канешна, гражданачка!

– Вы, Канстанцін Канстанцінавіч, не зьвяртайце на маю падругу ўвагі. Яна трохі не ў сабе. Літаратарша, знаеце. А гэта ў ніх прафесіянальнае.

Антаніна Васільеўна падымаецца зь пераходу на паверхню і ідзе па вуліцы Пушкінскай у бок парка Шаўчэнкі. Падае мокры сьнег. Халява правага бота целяпаецца па асфальце. Пясец на каўнеры бардовага дэмісэзоннага палітона «джэрсі» намок і са стрыжанага стаў лысым.

Якая я вартая жалю сёньня, думае Антаніна Васільеўна. Аж прыемна.

Голыя і чорныя кароны навакольных дрэваў чамусьці нагадваюць Антаніне Васільеўне чыгуначныя каляіны.

Яна заходзіць у бязьлюдны парк і запавольвае хаду.

У парку трэба хадзіць так, нібы ў цябе пульс дваццаць udaraў на год, думае.

Каля помніка Шаўчэнку Антаніна Васільеўна сядае на мокрую, прыцярушаную сьнегам лаўку.

Я падобная да бяздомнай алькагалічкі, думае Антаніна Васільеўна, але што з таго? Чым яна горшая за мяне?

Антаніна Васільеўна ўзгадвае тую алькагалічку, якую бачыла нядаўна па тэлевізары. Алькагалічка месяц як выйшла зь вязьніцы. Валасы яшчэ не пасьпелі адрасьці. Такая прыпухлая і чорная. Яна сядзела на лавачцы ў нейкім парку, магчыма, нават парку Шаўчэнкі, і казала журналісту: «У мяне няма пашпарта. Згубіла. І грошай няма, каб новы пашпарт зрабіць. Ніхто мяне не шчытае чалавекам. А ў кансьцітуцыі запісана, што кожды чалавек – лічнасьць. Я – лічнасьць. Зрабіце што-небудзь для мяне».

На лаўку да Антаніны Васільеўны падсаджваецца мужчына гадоў сарака, апрануты так, як апранаюцца рыбакі ў непагадзь. Пад пахаю ў яго каробка з шахматамі.

– Шахматы? – кажа Антаніна Васільеўна. – Пагуляем?

Мужчына грэбліва аглядае Антаніну Васільеўну.

– Я іграю на дзеньгі.

– Я згодная. Стаўлю свае боты… то бок пяцьдзясят грывень.

Мужчына яшчэ раз аглядае Антаніну Васільеўну, але гэтым разам з насьцярогай.

– Ты падасланая?

– Не, я настаўніца.

Мужчына вагаецца.

– Пакажы дзеньгі, каб я бачыў, што яны ў цябе вабшчэ ёсьць.

Антаніна Васільеўна дастае з кішэні пяцьдзясят грывень.

– Ідзём пад навес. Тут фігуры намокнуць.

Яны ідуць у скверык побач з грамадзкімі туалетамі.

Мужчына маланкава расстаўляе на дошцы фігуры.
– Ты хоць іграць умееш? – пытае Антаніну Васільеўну.
Тая не адказвае і робіць першы ход белымі.
Праз дваццаць хвілін супрацiўнiк Антаніны Васільеўны зьдзіўлена выгукае:
– А ты, дамачка, на выйгрыш граеш!
– Я заўсёды выйграю. Праз два хады мат, – спакойна кажа Антаніна Васільеўна. – Давай пяцьдзясят грывень.

3

– Віктар?
– Вы ўжо тыдзень не прыходзіце. Я спалохаўся, што штосьці здарылася.
– Не перажывайце. Я пакуль не зьбіраюся паміраць.
Віктар топчацца на ўваходным дыванку Антаніны Васільеўны. Гэты дыванок калісьці быў ейнай улюбёнай начной сарочкай.
– Можа, хочаце чаю зь печывам?
Віктар заходзіць у калідор і далікатна разуваецца.
У гэтай кватэры за сорак гадоў, апроч сантэхнікаў, не было ніводнага мужчыны, думае Антаніна Васільеўна.
– Вы сумавалі па мне? – пытаецца Антаніна Васільеўна і ўсьміхаецца. Ёй раптам робіцца добра і ўтульна.
– Я прывык з вамі спрачацца, – Віктар таксама ўсьміхаецца. У ягоных вачах зьявіўся прывычны гарэзьлівы агеньчык.
– Што ж, давайце паспрачаемся.
– Давайце.
Антаніна Васільеўна похапкам прысьцілае ложак, адначасова пры гэтым адсоўваючы купу кніжак на падлозе ў куток.
– Сядайце ў крэсла каля вакна. Яно спэцыяльна для гасьцей.
Віктар сядае ў крэсла.
– Што вы зараз чытаеце? – пытаецца.
– Ветлівасьць вам не пасуе, Віктар. Са мною не абавязкова гаварыць пра кніжкі.
– Мне сапраўды цікава.
– Я ўжо не чытаю нічога новага. Толькі перачытваю.
Антаніна Васільеўна ставіць на часопісны столік талерку з аўсяным печывам і два кубачкі.
– Вы п’еце чай з цукрам?
– Без.
– Колькі вам гадоў, Віктар?
– Дваццаць. А вам?
– Дваццаць пяць.
– Выглядаеце маладзейшай.
– Дзякую.
Жучка зь недаверам паглядае на госьця.
– Што вы цэлымі днямі робіце, Антаніна Васільеўна?
– Старэю.
– Гэта, напэўна, дужа нудна.
– Ну чаму. У пятніцу я была на дыскатэцы, напрыклад.
– На дыскатэцы?
– Вы зьдзіўлены? Так, на дыскатэцы. І мела шалёны посьпех у кавалераў.
– Віншую, – Віктар адкідваецца на сьпінку крэсла. – Але я вам ня веру. Вы ня ўмееце танцаваць.
Антаніна Васільеўна абурана ўсплёсквае далонямі.
– Я ўмею танцаваць! Пэўны час я танцавала ў народным ансамблі, я казала.
– На дыскатэках граюць «падаляначку»?

– Слухайце, нахабны малады чалавек! Не абавязкова ўмець танцаваць, каб мець посьпех у кавалераў!

Віктар устае з крэсла.

– Пакажыце, як вы танцуеце.

Ён дэманстратыўна выходзіць на сярэдзіну пакоя.

– Хадзіце сюды. Патанцуем.

– Ды ну вас!

– Баіцёся?

– Я нічога не баюся.

Антаніна Васільеўна становіцца насупраць Віктара.

– Толькі, калі ласка, без выкрутасаў задніцай.

– Як скажаце.

Антаніна Васільеўна зь першага ж кроку наступае яму на нагу.

– А што мы ўвогуле танцуем?! – ці то вінаваціць, ці то апраўдваецца яна.

– Павольны вальс.

– Ненавіджу павольны вальс.

– Як даўно вы танцуеце?

– З васьмі гадоў.

– А чаму ўвогуле пачалі?

– Маю стрыечную сястру аддалі на бальныя танцы, але яна саромілася хадзіць туды адна. Я мусіў суправаджаць яе тыдзень для падтрымкі. За гэты тыдзень сястра кінула танцы. Я застаўся.

– Чаму?

– Ня ведаю.

– Вы адна? У вас няма мужа, дзяцей?

– Нікога няма.

– Ну так, я разумею. З вамі дужа цяжка.

– Ня так цяжка, як падаецца. Проста мне ніхто ня быў патрэбны.

– А зараз?

– Зараз тым больш.

– Вы падманваеце альбо мяне, альбо сябе.

– Я ніколі не падманваю.

– Які танец вам падабаецца найбольш?

– Самба і румба.

– Які найцяжэй танцаваць?

– Павольны факстрот.

– А я ненавіджу павольны вальс.

– Я ўжо гэта чуў. Чаму? Павольны вальс – найпрыгажэйшы з танцаў.

– Вальс зарамантычны для мяне.

– Дзіўна. Жанчыны, як правіла, рамантычныя.

– Я не жанчына. Я старая баба.

– Чаму ў Жучкі такі куцы хвост?

– Жучцы прышчаміла хвост дзьвярыма ліфта. Яна зь пярэпалаху рванулася і засталася пры сваіх інтарэсах. З таго часу баіцца ў ліфт заходзіць. Зьбягае ўніз па лесьвіцы.

– Разумная.

– Не, проста мае добрую памяць.

Антаніна Васільеўна прыносіць яшчэ чаю.

– Ну, і як я танцую? – пытаецца яна ў Віктара.

– Жахліва. А ўсё таму, што апускаеце галаву.

– Я сачу за нагамі. Каб яны не заблыталіся.

– Ня трэба сачыць за нагамі. Трэба сачыць за рытмам. І за партнэрам. Партнэр вядзе – партнэрка яму падпарадкоўваецца.

– Я ня звыкла некаму падпарадкоўвацца.

Віктар паціскае плячыма.

– Гэта ўсяго толькі законы танцу.

– Не рабіце рэзкіх рухаў! Павольна павярніце галаву і паглядзіце ў вакно.

– А што там?

– Два крумкачы. Сядзяць на электрычным дроце.

– І што тут такога?

– Я іх часта бачу. Амаль кожны дзень. Пастаянна. Яны прылятаюць сюды паглядзець на мяне.

– Навошта вы ім, Антаніна Васільеўна?

– Я таксама ў сябе гэта пытаю. Навошта я ім?

4

Навошта я ім?

Антаніна Васільеўна глядзіць на крумкачовую пару, а тая на яе. Цікава, колькі яны жывуць? Напэўна, так, як людзі. Значыць, гэта можа быць тая самая пара. Антаніна Васільеўна добра яе памятае.

Вось яна – маладая і ўпэўненая ў сабе настаўніца літаратуры – спускаецца па школьнай лесьвіцы з трэцяга паверха. Бора – настаўнік геаграфіі – стаіць на прыступках, нібы проста, але насамрэч чакае Антаніну Васільеўну. Бора робіць так апошнія паўгады.

– Як у вас справы, Антаніна Васільеўна? – весела кажа Бора. – Колькі сёньня правялі ўрокаў? Як паводзіў сябе 6-ы «б»?

– На якое з трох пытаньняў мне адказваць?

Антаніна Васільеўна ляніва ўсьміхаецца Бору, і Бора зьзяе.

– Можаце не адказваць увогуле! Я бачу, што ўсё добра!

Пэўны час яны моўчкі разам спускаюцца па лесьвіцы.

Бора зьзяе.

Антаніна Васільеўна ляніва ўсьміхаецца.

Знаёмыя настаўніцы, прабягаючы міма, хітра падміргваюць Антаніне Васільеўне. Антаніна Васільеўна чырванее. Нават трохі злуецца.

– Бора, – ціха кажа яна, працягваючы пры гэтым усьміхацца, – навошта вы мяне пастаянна вычэкваеце на лесьвіцы пасьля ўрокаў?

– Вычэкваю? Што вы такое кажаце, Антаніна Васільеўна?! Я выпадкова там стаяў…

Другі паверх.

– Ну добра, не выпадкова, – мармыча Бора. – Я падумаў, можа, я правяду вас дадому?

– Навошта?

– Пагаворым па дарозе.

– Пра што?

– Прыдумаем.

Антаніна Васільеўна не адказвае. Ногі робяцца драўлянымі. Яна прадбачыла штосьці падобнае, але ня ведала, як зрэагуе. І зараз ня ведае. Галава ідзе кругам. Думкі блытаюцца.

Вось яна – любоў? Антаніне Васільеўне робіцца неяк непрыемна. Яна зусім усё ня так сабе ўяўляла. Зусім ня так. Любоў мусіла прыйсьці іначай. Любоў – гэта ня Бора.

Але калі ўсё-такі Бора?

Антаніна Васільеўна скоса пазірае на Бору, а той зьзяе ў адказ. Страшэнна па-дурному. Боравы вусны падаюцца Антаніне Васільеўне занадта, аж непрыстойна пухкенькімі як для мужчынскіх. Яна ўяўляе гэтыя вусны на сабе, на сваіх вуснах, і горла зводзіць спазмам агіды.

Усе закаханыя людзі выглядаюць па-дурному, думае Антаніна Васільеўна.

– Мы можам пагаварыць пра падарожжы, – няўпэўнена прапануе Бора.

Першы паверх.

– Я, ведаеце, настаўнік геаграфіі.

– Ведаю.

– Я шмат дзе хацеў бы пабываць. Напрыклад, у Буэнас-Айрэсе. А вы?

Яны выходзяць са школы. Яшчэ пяць парадных прыступак, і яны разьвітаюцца. Антаніна Васільеўна пойдзе направа, Бора – налева.

І тут Антаніна Васільеўна заўважае іх. Крумкачовая пара на дрэве ў школьным двары. Глядзіць проста на яе. Зь цікавасьцю прыадкрыўшы дзюбы. Зь нейкім ненатуральным іншасьветным інтарэсам.

Антаніна Васільеўна замірае.

Галоўнае – вытрымаць позірк, чамусьці думае. Чапляецца за ўласную нагу і ляціць па прыступках уніз.

Страшны боль прастрэльвае ўсё цела. У вачах цямнее.

– Антаніна Васільеўна! – чуе над сабой. – Антаніна Васільеўна! З вамі ўсё ў парадку?!

Расплюшчвае вочы і бачыць над сабой усхваляванага Бору, ягоныя пухкія вусны, бачыць любоў ува ўсёй сваёй красе, ад якой няма куды схавацца.

– Не чапайце мяне! – штомацы крычыць Антаніна Васільеўна. – Не чапайце мяне!!!

Крычыць так, што са школы на крык зьбягаюцца настаўнікі і вучні. Абступаюць Антаніну Васільеўну, а яна ляжыць на асфальце, ня маючы сілы падняцца.

– Антаніна Васільеўна, – Бора пяшчотна бярэ яе за руку, – што ў вас баліць, скажыце мне? Дзе баліць?

У Антаніны Васільеўны разьдзьмуваецца на шыі жылка ад гневу і нянавісьці.

– У яе балявы шок, – кажа Бора. – Расступіцеся. Выклічце «хуткую». Антаніна Васільеўна, – зьвяртаецца ўжо да яе, – зараз прыедзе «хуткая». Ня рухайцеся.

Антаніна Васільеўна вырывае ў Боры сваю руку. Раскрывае рот і гарлае так, як ніколі да і пасьля ў сваім жыцьці:

– Ідзіце ў ср-р-раку! Згіньце! Правальвайце ў Буэнас-Айрэс!

Надзя зьяўляецца па графіку. Гэтым разам яна паводзіцца стрымана, даючы зразумець, што яшчэ дагэтуль абражаная і чакае заслужаных выбачэньняў.

– Ты, Надзежда, прабач мяне, – кажа Антаніна Васільеўна, – я павяла сябе непрыгожа. Ня трэба было ісьці на дыскатэку ў старых ботах.

– Ну да, непрыгожа ты павялася, – Надзя зазірае ў лядоўню і кошык для сьмецьця. – Але ізьвіненія прынімаюцца. На то і ё падругі, каб усё прабачаць.

– Як Канстанцін Канстанцінавіч?

– Харашо. Занімацельны мужчына. Вясёлы.

Антаніна Васільеўна ціхенька напявае: «Надзежда – мой компас зямной».

– Антаніна, ты як-та ўстала выглядаеш, – кажа Надзя.

– Пагана сплю апошнім часам. Са мною так заўжды на пачатку зімы.

– Не разумею, як бяссоньніца зьвязана зь зімой. Прынімай таблеткі. Я ўжо пяць гадоў іх прынімаю. Сплю, як харок.

– Баюся. Мне здаецца, што ад таблетак сон нездаровы.

– Нармальны сон! Што ты такое гаворыш?!

Надзя нарэшце ўсаджваецца ў крэсла каля вакна.

– А ў цябе атапленіе дагэтуль не ўключылі?!

– Не ўключылі.

– Безабразіе! Антаніна, жалавацца трэба!

– Не хачу псаваць сабе нэрвы.

– Так і запаленьне лёгкіх лёгка атрымаць!

– Будзеш чай піць, Надзежда?

– З цукрам.

Антаніна Васільеўна робіць чай, а Надзя дакладвае апошнія навіны з жыцьця сьмяротных.

– Знаеш, хто памёр? Бора-геаграфік.

Антаніна Васільеўна маўчыць.

– Помніш яго?

– Не.

– Як ня помніш?! Мусіш! Ён бегаў за табой не адзін год.

– Ніхто за мной ня бегаў.

– Яшчэ й як бегаў. Уся школа пра вас сплетнічала. Ну прызнайся, Антаніна, у цябе зь ім было?

– Я ня ведаю, пра каго ты гаворыш, Надзежда.

– Ну такі невысокі, трохі неапратны. Геаграфію прэпадаваў. Губаты такі.

– Пі чай, Надзежда.

– Няхай ахалоне.

Надзя пільна назірае за Антанінай Васільеўнай. У Антаніны Васільеўны ледзь заўважна дрыжаць рукі.

– Странная сьмерць, – асьцярожна працягвае Надзя. – Жанаты ня быў. Паганых звычак ня меў. Проста памёр.

– Такое таксама часам здараецца.

Надзя падрываецца з крэсла. Па-ваярску распраўляе плечы.

– От навошта ты так вядзеш сябе, Антаніна?!

– Як?

– Ты прэкрасна помніш геаграфіка, толькі ўдаеш, што ня помніш!

– Навошта мне такое рабіць?

– От і я думаю, навошта?! Корчыш ізь сябе прынцэсу! Усю жызьнь корчыш ізь сябе прынцэсу!

– Надзежда, гэта няпраўда.

– Праўда! Памятаць нейкага Бору-географа надта ўнізіцельна для цябе, да?

– Што ты нясеш, Надзежда?!

Антаніна Васільеўна таксама падрываецца.

Так стаяць адна насупраць другой: сакратар Бога на зямлі і злосны неплацельнік Божых падаткаў.

– Так заўжды было, – цэдзіць Надзя скрозь устаўныя зубы, – ты – прынцэса-літаратарша, гардзячка, а я ўсяго ліш масавік-зацейнік. Але цяпер сітуацыя зьмянілася, Антаніна. Час нас зраўнаў. Цяпер мы роўныя, Антаніна! Цяпер мы знаеш хто? Я табе скажу. Пенсіянершы.

На бледным абліччы Антаніны Васільеўны не варушыцца ніводны нэрв.

– Ты права, Надзежда, – нарэшце кажа яна, – я памятаю Бору. Я схлусіла, што ня памятаю. Мне было сорамна.

Надзя ўсплёсквае далоньмі:

– Чаго стыдна?! Луччай падруге сазнацца сорамна???

– Шмат гадоў прайшло.

– Прызнавайся, – салодка бразгоча Надзя, – што ў вас было?

– Раман быў.

– О!!! Та мы ўсе здагадваліся. Але ты так надменна сябе зь ім на людзях вяла, што мы не былі ўвераны на сто працэнтаў. І як доўга?

– Ня ведаю. Год. Можа, болей.

– О!!! І чаго вы не пажаніліся, Антаніна?

Антаніна Васільеўна адварочваецца да вакна.

– Ён не захацеў, – кажа.

– Ня можа такога быць! Бора быў улюблёны ў цябе па вушы.

– Любоў мінае.

Надзя ліхаманкава супастаўляе ў розуме плёткі і факты і ўрэшце спачувальна ўздыхае.

– Бедная. Чаго ж ты ўсё трымала ў сабе? Не падзялілася са мной сваім горам…

Антаніна Васільеўна адчыняе вакно і раскрошвае аўсянае печыва на падваконьні.

Два крумкачы імгненна падлятаюць і падбіраюць крошкі дзюбай.

– Антаніна! Ты гадуеш крумкачоў?!

– А што тут такога?

– Першы раз такое бачу.

– Гэта ручныя крумкачы. Яны мае сябры, – Антаніна Васільеўна вымучвае кіслую ўсьмешку. – І ўвогуле, я ня ведаю, ці гэта крумкачы, ці галкі, ці грачы, ці груганы.

– Ты будзь з крумкачамі астарожная, Антаніна, – Надзя апранае палітон. Ейная місія на сёньня скончылася. – Нядаўна па тэлевізару перадавалі, што крумкачы ў гарадах агрэсіўныя сталі. Цэлымі бандамі нападаюць на галубоў і дажа на бяздомных псоў. Глядзі – скора да людзей дабяруцца. Яны мне ніколі не нравілісь.

Гэта сьмешна, думае Антаніна Васільеўна, гэта так сьмешна, што аж балюча.

Але ўсё ж.

Яна заходзіць у абутковую краму «Ўсё па 50 грывень». Крама перапоўненая. Антаніна Васільеўна павольна аглядае палічкі з жаночымі ботамі. Усе яны амаль нічым не адрозьніваюцца між сабой. Усе чорнага колеру.

Гэтую краму трэба было б назваць «Усё па-чорнаму», думае Антаніна Васільеўна. Бярэ адзін бот у рукі, і ёй здаецца, што бот папяровы – такі лёгкі.

Мілавідная чарнявая дзяўчына падыходзіць да Антаніны Васільеўны з прафэсійнай усьмешкай на твары.

– Хочаце прымерыць? – пытаецца.

– Ня ведаю напэўна, але скажыце, – Антаніна Васільеўна мнецца, – скажыце, гэтыя боты не папяровыя?

– Вядома, не папяровыя! Адкуль вы такое ўзялі? Некаторыя нават скураныя!

– Я падумала, можа, гэта абутак для… нябожчыкаў.

Прафэсійная ўсьмешка застывае на твары дзяўчыны.

– О, ня трэба мяне шкадаваць! – спахопліваецца Антаніна Васільеўна. – Я ня маю нічога супраць абутку для нябожчыкаў. Проста некаторыя зь іх дужа паганай якасьці і разьлязаюцца ад першай слоты.

Антаніна Васільеўна мерае адну пару, потым другую, потым трэцюю.

– Гэтыя зацесныя, – кажа яна дзяўчыне-кансультанту. – А ў гэтых дужа гостры нос. Баюся, што каго-небудзь імі закалю. А гэтыя, трэція, яны проста жахлівыя. Мне патрэбныя такія, якія б мелі мяккую падэшву.

– А, я разумею, – адгукаецца дзяўчына, – каб мазалі не націралі?

– Каб зручна было танцаваць.

Сьмешна, аж балюча, думае Антаніна Васільеўна.



Ганна Бундзелева

Ён танцуе – Антаніна Васільеўна сядзіць на зэдліку ў кутку і назірае.
Потым раптам устае і кажа:
– Я купіла сабе новыя боты. У пятніцу зноў іду на дыскатэку.
– Ніводны мужчына цяпер ня выстаіць супраць вашых募араў, – весела адпавядае Віктар.
– Ніводны. Я буду танцаваць.
– Вы ж ня ўмееце.
– Вы мяне навучыце.
– Баюся, да пятніцы мы наўрад ці пасьпеем.
– Я хутка вучуся.

– Чаму вы танцуеце адзін, Віктар? Я заўсёды думала, што для танца патрэбны двое.
– У мяне была партнэрка. Яе звалі Ліля. У мінулым месяцы мы разышліся.
– Чаму?
– Пасварыліся.
– А! Я разумею. Сардэчныя справы.
– Не. Я ня блытаю танцы і любоў. Ліля падчас трэніровак не карысталася антыпэрсьпірантам. Мяне гэта бясіла.

– Антаніна Васільеўна, вы хочаце ўсё зрабіць самі. Гэта няправільна. Вы зусім не выкарыстоўваеце мяне, калі танцуеце.
– Я вам не давяраю.
– Дарэмна.
– Хіба?

– Колькі кніжак вы прачыталі?
– Ня ведаю. Не лічыў.
– Тады так: якую кніжку вы прачыталі апошнюю?
– «Гары Потэра».
– І як? Спадабалася?
– Так.
«Ён яшчэ дзіця»,– думае Антаніна Васільеўна.

– У мяне дэжа вю! Я ўжо гэта бачыў. Вас тут. Што мы танцуем.
– Добра.
– Адкуль гэта?!
– Ну, у мяне ёсьць свая тэорыя… Я думаю, што гэта ўсё нам сьнілася. І калі-нікалі мы ўзгадваем свае сны.
– Я таксама так думаю! Але тады атрымліваецца, што мы спачатку бачым сваё жыцьцё ўва сьне, а ўжо потым яго жывем.
– Акурат так і атрымліваецца.
– Тупа неяк.

– А ў школе вы што-небудзь чыталі?
– Ну. Чытаў. Штосьці.
– «Мадам Бавары» Флабэра чыталі?
– Не.
– А Дастаеўскага?
– Той, каторы Фёдар?
– Той, каторы «Браты Карамазавы», «Бесы».
– Не. Не чытаў.
– А Франца Кафку?
– Не чытаў. Усё вельмі страшна, так?
– Але ж вы чулі пра Кафку… Ведаеце, хто гэта?

– Ніколі ня чуў.
– У вас была паганая настаўніца літаратуры.

– Антаніна Васільеўна, зь якога вока?
– Што?
– У вас вейка ўпала. Зь якога вока?
– Віктар, я вас не разумею.
– Ёсьць такая гульня. Вы ня ведаеце? У вас упала вейка з вока. Калі адгадаеце, зь якога, бярэце вейку, загадваеце жаданьне і кладзеце вейку за пазуху. Жаданьне спраўдзіцца.
– Вось яно што. Так, я ведаю такую… гульню. Зь левага вока.
– Адгадалі. Загадвайце жаданьне.
«Дзіця»,– думае Антаніна Васільеўна і загадвае жаданьне.

– Як пажываюць вашыя крумкачы? Далей глядзяць?
– Уласна, я ня ўпэўненая, што гэта крумкачы. Гэта могуць быць і галкі, і гракі, і груганы. Але так. Глядзяць.
– У вас, Антаніна Васільеўна, напэўна, ёсьць наконт іх якая-небудзь свая тэорыя.
– Ёсьць. Я думаю, крумкачы мне зайздросьцяць.
– Чаго гэта?
– Бо я адна, а яны заўсёды ўдвох.

Ужо трэція суткі, думае Антаніна Васільеўна, лежачы ў ложку. Мне трэба трохі паспаць.
Пераварочваецца на правы бок. Чуе, як тахкае сэрца. Лічыць удары. На сто дваццатым кладзецца на сьпіну.
– Няўжо я чагосьці чакаю? – пытаецца сама ў сябе.
Жучка ціхенька скуголіць у нагах.

Ад самага ранку пачынае апранацца, доўга круціцца перад люстэркам, падфарбоўвае вусны, кропіцца духамі, прывезенымі дзесяць гадоў таму з Польшчы. Абувае новыя боты.
– Антаніна Васільеўна, я прама вас не пазнаю, – кажа Антаніне Васільеўне дворнічка Люся, цягнучы вонкі выкінутую кімсьці старую лядоўню. – Вы так пахарашэлі.
– Не прыдумляйце, Люся, куды мне харашэць?
– Ды вы яшчэ зусім не старая, Антаніна Васільеўна!
Заходзіць у кватэру паверхам ніжэй. Адтуль лунае якаясьці незвычайная як для бальнага танцу музыка. Такую музыку Антаніна Васільеўна называе «упц-упц-упц».
Пасярод пакою скачуць тры маладыя дзяўчыны ў куцанькіх майках і шырачэзных спартовых штанах. Заўважыўшы Антаніну Васільеўну, спыняюцца і зьдзіўлена пераглядаюцца між сабой.
– Добры дзень, – няўпэўнена кажа Антаніна Васільеўна, – вы, напэўна, ягоныя напарніцы?
– Што?
– Я… да Віктара. Яго тут няма?
– Да каго?
Прыгожая бялявая, відавочна, старэйшая сярод дзяўчат, усё бярэ на сябе.
– Тут няма ніякага Віктара. Вы памыліліся.
– Але ён быў тут яшчэ тры дні таму, у пятніцу.
– Мы ня ведаем, хто быў тут у пятніцу. Сёньня ў нас першы дзень арэнды.
Антаніна Васільеўна яшчэ нічога не разумее, але адчувае, як патроху пачынаюць дрыжаць калені.
– Што значыць «першы дзень»?
«Першы дзень, апошні дзень».
– Слухайце, як вас там, мы не абавязаны перад вамі адчытвацца! Тут няма ніякага Віктара. Да пабачэньня.
Антаніна Васільеўна закіпае.

– Дзяўчынка! Цябе хто-небудзь калі-небудзь вучыў элемэнтарнай культуры паводзінаў?! Наколькі мне вядома, са старэйшымі прынята гаварыць з павагай.

– Прыпёрліся сюды і лечыце мяне?! Што вам трэба?!

Твар Антаніны Васільеўны робіцца крэйдавым, а голас – забойча спакойным.

– Я з кватэры паверхам вышэй. Мне замінае вашая музыка. Прашу яе больш не ўключаць.

Усе тры дзяўчыны становяцца ў баявую пазыцыю. Цяпер яны падобныя да маладых пеўняў.

– Я вас прашу, дзяўчаткі, ня трэба скандаліць, – кажа Антаніна Васільеўна, бясьсіла плетучыся да выхаду. – Я ня маю часу спрачацца і штосьці вам даводзіць. Яшчэ раз пачую музыку – выклічу міліцыю.

5

– Антаніна Васільеўна! Што вы робіце?! Вы пераяжджаеце? – дворнічка Люся якраз падмятае асфальтаваную дарожку перад падʼездам.

– Не. Я выкідваю кніжкі.

Антаніна Васільеўна носіць перавязаныя стосікі кніжак зь ліфта ў падʼезд, а потым да кантэйнера са сьмецьцем.

– Але чаму?

– Ведаеце, Люся, яны мне ўжо не патрэбныя.

Дворнічка Люся кідае сваю мятлу і дапамагае Антаніне Васільеўне.

– Гэта так странна, Антаніна Васільеўна. Вы ж настаўніца, да?

– Была калісьці.

– І каб кніжкі выкідаць…

– Я ўсе іх прачытала шмат разоў. Больш нічога новага гэтыя кніжкі ня могуць мне сказаць.

– Іх можна прадаць, – цяміць дворнічка Люся. – Заробіце трохі. Зачэм вот так выкідаць?

– Хочаце – прадавайце. Я ня буду гэтым займацца.

– Да тут цьма-цьмушчая кніг, – кажа сама да сябе дворнічка Люся. – Цэлае састаяніе…

Антаніна Васільеўна падносіць апошнюю вязанку да сьмецьцевага кантэйнера і зьбіраецца вяртацца дадому. Апошні раз глядзіць на купу кніг.

Так, я буду шкадаваць, думае, але ня сёньня.

– Люся, хачу замест гэтага сёе-тое ў вас папрасіць.

– Канешна-канешна, Антаніна Васільеўна, – Люся корпаецца ў кніжках, ці то каб ацаніць тавар, ці то каб знайсьці хоць адну знаёмую назву.

– Дапаможыце мне пахаваць Жучку.

– Што?

– Маю сабачку. Яна памерла.

– О, мне дужа жаль, Антаніна Васільеўна. Вы, наверна, очань яе любілі.

– Яна была дужа старая.

– Да, старасьць ня радасьць, – чамусьці кажа Люся. – Як вы хочаце сабачку пахаваць? Можна завярнуць яе ў пакет і проста выкінуць у мусарны бак. А можна закапаць дзе-та ў парку за домам.

– Напэўна, лепей закапаць.

– Ну, тады я вечаркам да вас зайду. Луччэ закапваць вечаркам. Каб людзі не балталі потым. Пахаваем з почэсьцямі. Цэрэманіальна.

– Дзякую, Люся.

Антаніна Васільеўна заходзіць у падʼезд, і ёй здаецца, што ейнае ўласнае цела стала ўдвая лягчэйшым.

6

У пераходзе на «Тэатральную» дыскатэка ў разгары.

Антаніна Васільеўна стаіць поруч з размаляванымі бабамі і корчыць грымасу ветлівасьці.

– Во гэта я панімаю, Антаніна, – кажа Надзя, – прыбралася як трэба. Сёньня ты тут каралева. Прыкупіла сабе новыя боты?

– Прыкупіла.

– Харашы. Колькі дала?

– Пяцьдзясят грывень.

– Я бы й не сказала, што так дзёшава. Легантныя.

Надзя шукае позіркам кагосьці ў натоўпе. Канстанціна Канстанцінавіча сёньня няма.

– Што новага, Надзежда? – пытаецца Антаніна Васільеўна.

– Да ты знаеш, Антаніна, дажа няма што расказаць. Усе жывы-здаровы. Пака што.

Два падстаркаватыя дзядкі натхнёна граюць на парэпаных баянах настальгійныя мэлёдыі сваёй маладосьці.

Павольны вальс, думае Антаніна Васільеўна і нэрвова прыгладжвае каўнер свайго бардовага дэмісэзоннага палітона «джэрсі».

– Можна вас запрасіць на вальс, – раптам чуе дзесь зусім побач знаёмы голас. Крута разварочваецца. Бачыць Віктара.

– Віктар? Што вы тут робіце?

– Прыйшоў з вамі патанцаваць, Антаніна Васільеўна.

Навакольныя размовы сьціхлі. Публіка зьдзіўлена назірае за імі. Хтосьці шэпча:

– Хто эта, Вера? Надзежда, ты знаеш, хто эта?

– Ня маю зялёнага паняція.

Віктар выводзіць Антаніну Васільеўну на сярэдзіну імправізаванай танцавальнай пляцовачкі.

– Вы гатовая, Антаніна Васільеўна?

– Гатовая.

– Павольны вальс. Якраз той, што вы найбольш любіце.

Пачынаюць танцаваць, і колькі дзясяткаў пар вачэй неадрыўна за імі назіраюць.

– Ты глянь, як яна танцуе, – шэпча Надзя суседцы, – ніколі бы дажа і не падумала, што так умее.

– Але хто эта, Надзежда? Зь кім яна танцуе?

– Ня маю зялёнага паняція, – і Надзя роспачна прыкусвае ніжнюю вусну.

– Добра выглядаеце, Антаніна Васільеўна.

– Вы таксама, Віктар.

– Я так зьнік. Не разьвітаўшыся. Вы, напэўна, пакрыўдзіліся на мяне.

– Не апраўдвайцеся. Вы нічога мне не павінны. І не абавязаныя былі разьвітвацца.

– Я стаў у пару з новай партнэркай. Цяпер трэніруюся ў іншым месцы. На Ліпках. Там вялікая заля. Калі хочаце, можаце прыходзіць туды.

– Ну што вы, Віктар, не.

– Шкада.

– Як новая партнэрка? Карыстаецца дэзадарантам?

– Так, яна нічога, нармальная. Але страшэнна дурная. Сапраўдная бландзінка, ведаеце.

– Каб танцаваць, багата розуму ня трэба.

– Вы, памятаю, calісьці казалі зусім супрацьлеглае. Казалі, што танец – гэта ня мова цела, а мова душы.

– Ну, Віктар, я перабольшыла. Невядома, ці гэтая душа ўвогуле ёсьць.

– Я прачытаў Флабэра і Дастаеўскага.

– Нават так? І спадабалася?

– Спадабалася. На чарзе Франц Кафка.

– Кафку я дазваляю вам не чытаць. Баюся, ён негатыўна паўплывае на вашае пачуцьцё рытму.

Надзя б’е сябе па лобе:

– Ясна! Гэта яе колішні вучань!

– Точна. Колішні вучань. Бо хто ж яшчэ?

– Віктар, я хацела б вам прызнацца кое ў чым.

– Будзьце асьцярожнай, Антаніна Васільеўна, – ён хітравата мружыцца.

– Памятаеце, вы спыталіся ў мяне, чаму я адна. Тады я вам схлусіла.

– Я не сумняваўся.

– Ня ведаю, ці зразумееце вы. Я проста… я была занадта рамантычная, каб прыняць зямную любоў.

Вальс скончыўся. Віктар падводзіць Антаніну Васільеўну да гурту старых баб.

– Антаніна, пазнаком нас са сваім кавалерам! – шчабеча Надзя. – Гэта, як мы понялі, твой колішні вучань, да?

Антаніна Васільеўна ўсьміхаецца.

– Не, Надзежда. Гэта ня мой вучань. Пазнаёмся. Гэта Віктар.

***Пераклала з украінскае мовы Ліда Наліўка.***
***Паводле выданьня: "Божественна комедія", Таня Малярчук, Харків: Фоліо, 2009.***
***ISBN 987-966-03-4911-7. Кніга "Звірослов", апавяданне "Corvus corax (Ворон)".***
***Друкуецца з дазволу аўтара.***





**МІХА**

Але Міха не паміраў. Ні ўночы з панядзелка на аўторак, ні ўночы з аўторка на сераду, магчыма, ён памрэ ўвечары ў сераду ці ўночы на чацьвер. Эліс недзе чула, нібыта большасьць людзей паміраюць ноччу. Дактары больш нічога не казалі, яны пацiскалі плячыма і разводзілі свае пустыя, дэзінфікаваныя рукі. Нічога ня зробіш. Нам вельмі шкада.

Эліс і Маі, і дзіцёнку Маі давялося шукаць новае жытло. Новую кватэру на вакацыі, таму што Міха ня мог памерці, папярэдняя кватэра была надта маленькай. Ім было патрэбна мінімум два пакоі, адзін для Маі і дзіцёнка і адзін для Эліс, а яшчэ гасьцiная з тэлевізарам, каб бавіць вечары, хоць крыху абстаўленая кухня для патрэбаў дзіцяці, ванны пакой з ваннай. Сад? Вакно з добрым відам на нешта прыгожае.

Міха ў больніцы быў апрануты ў бальнічную кашулю з блакітнымі ромбікамі. Ён высах да самых костак, шкілет, толькі ягоныя далоні былі ранейшымі, мяккімі і цёплымі. На століку каля ложка не было нічога, акрамя пляшкі зь мінэральнай вадой і кубка-паільніка. Але цяпер ён ужо ня піў.

Эліс пакавала сваю сумку. Начная кашуля, тры футболкі, тры швэдры, штаны, бялізна, кніга. Яна прысела на плеценую канапку паміж падушкамі і падштурхнула зялёны плястыкавы шарык са званочкам унутры на пакрытым пліткай стале ў бок малога. Дзіцё ўжо ўмела стаяць каля нізкага стала ў залі, ганарліва, трымаючыся абедзвюма рукамі за накрыўку стала. Малое не зьвярнула на мячык увагі, рашуча паўтарыла некалькі разоў запар слова “заяц”. Вельмі вы-

разна. Мая тэлефанавала гаспадару адной кватэры на другім канцы горада. Таньней. Тры пакоі. З садам. Пральная машынка, так, натуральна. Ня так далёка ехаць да больніцы, як адсюль: штучныя ружы ў вазе на ўбудаванай у сьцяну шафе, над вакном здымак у рамцы, на якім сонца садзіцца за пустое возера. Складны ложак, на якім спала Эліс, перад шафай, двуспальны ложак у куце, каля вакна – плеценая канапка. Фіранкі былі ссунутыя ўбакі, вокны выходзілі на паркоўку супэрмаркета, машыны заяжджалі і выяжджалі, людзі кацілі поўныя кошыкі. У каталіцкім шпіталі, сказала Мая ў слухаўку, мой муж у каталіцкім шпіталі, яна сядзела на краечку ложка, галаву прытрымлівала рукой, адвярнуўшы твар. Эліс глядзела на ейную сьпіну. Малое цяпер зацікавілася плястыкавым шарыкам, паднял яго і пачала моцна трэсьці, слухаючы званочак з засяроджаным выразам твару.

Мы пераяжджаем, сказала Эліс дзіцёнку. Пераедзем у іншае месца. Там будзе вельмі добра, сама пабачыш. Ёсьць ванна. Сад, мы можам шторанку ў яго выходзіць. Дрэвы. Лужок. Магчыма, зайчыкі, хто ведае, можа, мы аднаго зловім.

Малое нічога не адказала. Яно глядзела на Эліс, даўгі погляд, які поўніўся загадкавым сэнсам. На ягоным падбародзьдзі дрыжэла празрыстая кропелька сьліны. Гэта было дзіцё Міхі, і яно было вельмі падобнае да бацькі.

Так атрымалася, што Міха паміраў у Цвайбрукэне. Два масты – для Эліс тое гучала паэтычна, але гэта была няўдалая карціна, таму што для паміраючага быў прызначаны хіба што адзін мост. А для каго тады другі? Такім здаваўся ёй Цвайбрукэн, канец адысеі з аднаго шпіталя ў іншы, выпадкова гэта быў каталіцкі шпіталь у далёкім ад дома горадзе, дзе паміраў Міха. Ён мог бы пасьмяяцца з гэтага, калі б у яго былі на тое сілы. Але іх больш не было. У яго быў рак, яму давалі морфій, ён амаль ужо сышоў, нельга было зразумець, што выражаў той гук, які ён выдаваў, калі Эліс сядзела ля ягонага ложка і трымала ягоную руку, боль ці аблягчэньне. Дактары, якія адышлі ад справы тыдзень таму, зь ветлівасці ўдавалі, што нешта робяць у палаце, час ад часу нехта рабіў выгляд, што мерае пульс ці тэмпэратуру, дактары прадказвалі сьмерць ужо некалькі дзён, але ён не паміраў. Удыхаў і выдыхаў. Удых і выдых. Удых і выдых. І ўсё.

Мая пераапранала дзіцёнка на двухспальным ложку. Малое было прыгожае, скура ў яго была мяккая і белая, на спіне ў яго была радзімка ў форме сэрцайка, асаблівая адзнака. Эліс сядзела на плеценай канапе і глядзела, як Мая пераапранала дзіцё, яна схапіла абедзьве ножкі левай рукой, лёгка прыўзняла малое.

Мы возьмем таксі, сказала Мая. Патэлефануй ты, калі ласка. Праз дзесяць хвілін.

Добра, сказала Эліс.

Яны мала размаўлялі міжсобку. Часам больш, часам менш, так не было непрыемна. Учора ўвечары яны моўчкі сядзелі побач і глядзелі, як дзіцё ела піцу. Доўгі час. Эліс паднялася і памыла апошні посуд, два кубкі ад кавы, дзьве талеркі, місачка, зь якой малое ела белы ёгурт і кавалачкі банана на абед. Складзі, калі ласка, усё з халадзільніка, сказала Мая. Яна сказала малому ляжаць ціха, яшчэ зусім крыху.

У халадзільніку былі яйкі, рыба, памідоры і кавалак масла. Была яшчэ гарбата зь фенхелю, бульба, яблыкі і грушы. Тры пляшкі піва і адна пляшка віна. У рондалі на пліце былі кіпячоныя соска і бутэлечка. Эліс расправіла два плястыкавыя ярка-жоўтыя пакункі, яна была разгубленая, ёй хацелася зрабіць усё правільна.

Потым прыйшоў гаспадар кватэры. Ён нячутна пагрукаў у дзверы, ён толькі хацеў спытаць, ці ўсё добра. Эліс адлічыла яму грошы ў працягнутую руку і ня ўбачыла прычыны хлусіць. Не, мы не зьяжджаем, мы пераяжджаем, тут надта цесна. А так усё ў парадку, дзякуй. Не, яшчэ крыху часу. Не, яшчэ не. Дактары кажуць, ён вельмі моцны. Гаспадар пасьміхнуўся, крывая бездапаможная ўсьмешка, ён выглядаў зьбянтэжана, але што ён мог зрабіць.

Куды вы паедзеце?

На ўскраіну горада, адгукнулася Мая ля ложка. На ўскраіну горада, там будзе сад, так будзе лепш для малога. Але дзякуй за ўсё. Вялікі дзякуй.

Мая зь дзіцём ужо два дні былі ў Цвайбрукэне. Яны ляцелі на самалёце, малое ляцела ўпершыню і ня плакала пры ўзьлёце і пасадцы. Яна зьняла кварэту яшчэ з Бэрліну, патлума-

чыла гаспадару, што едзе ў Цвайбрукэн не на вакацыі. Хіба ўвогуле можна тут адпачываць? Гаспадар ня ведаў, што адказаць на гэта. Сорак эўра за ноч у пакоі з ружамі і ваннай з душам. Калі на чацьвёрты дзень дзіцё пачало плакаць ужо на вуліцы, што вяла да шпіталя, Мая патэлефанавала Эліс.

Ты можаш прыехаць, Міха памірае. Пэўна, ты захочаш яго яшчэ раз убачыць. Мне патрэбны нехта, каб даглядаць дзіцё, яно ня хоча больш хадзіць у шпіталь.

Маеш на ўвазе, Міха хоча мяне ўбачыць, Эліс карцела спытаць. Ці ня думаеш ты, што гэта занадта. Але адкуль было Маі ведаць, ці хоча Міха бачыць Эліс.

Яна спытала, а што з малым?

Мая крыху падумала і сказала, малое больш не ўспрымае Міху як чалавека. Я не магу больш браць дзіцё ў ягоны пакой. Але я хачу быць зь ім. Разумееш?

Эліс выехала празь дзень. Яна была ледзь знаёмая з Маяй. Яна ведала Міху. Канечне, яна хоча яшчэ раз яго ўбачыць, што за пытаньне, былі часы, калі яна думала, што ня зможа жыць, калі ня будзе бачыць Міхаў твар. Яна часта казала яму гэта. Ён шторазу па-сяброўску сьмяяўся з гэтага. А яшчэ яна думала, што ён можа памерці, пакуль цягнік, у якім яна сядзела, ехаў празь нейкую сумную і непрыгожую мясцовасьць, яна перабольшвала ўласную важнасьць, ёй падумалася, што Міха памрэ таму, што яна едзе, і да таго, як яна прыедзе.

І ўсё ж яна выехала. Міха не памёр. Ні пакуль яна была ў цягніку, чытала газэту, спала, прачыналася, піла каву, ела яблык, глядзела ў вакно, плакала, хадзіла ў прыбіральню, двойчы пераходзіла на іншае месца. Усё ўспрыма як знак і няправільна яго тлумачыла. Ні калі яна прыехала ў горад, дзе яе на вакзале сустрэлі Мая і малое, яны абняліся, і Мая сказала, што плакаць яны змогуць пазьней. Міха не памёр у першую ноч, калі Эліс даглядала малое, пакуль Мая хадзіла ў шпіталь, і ў другую, а перад трэцяй ноччу яны вырашылі пераехаць.

Яны стаялі на вуліцы і чакалі таксі. Дзіцячы вазок быў складзены. Каля сумкі Эліс і чамадана Маі пакункі зь ежай з халадзільніка. Пажыткі. Усе словы нечакана набывалі цяпер двайны сэнс. Ходнік быў вузкі, па дарозе праносіліся машыны, цягнулі за сабой фантаны дажджавой вады. Ніхто не ішоў пешкі. Таксі не прыязджала. Мая трымала дзіцё на руках і качала яго пэўны час, потым працягнула яго Эліс. Эліс узяла малое, баялася, што яно будзе супраціўляцца, але дзіцё не адмовілася ісьці да Эліс, толькі мела даволі сур'ёзны выгляд. Яна ўзяла яго на рукі, крыху абапіраючы на сцягно, як звычайна трымаюць дзяцей, блізкасьць ягонага тварыка, захутанага ў мяккую ружовую шапку-вушанку, крыху засмуціла яе. Дзіцё пахла немаўляткам, малаком і маркоўным пюрэ, ягоныя блакітныя вочы былі вялізнымі і чыстымі. Эліс не магла вытрымаць гэты позірк, адвяла вочы, глядзела ўверх-уніз па вуліцы. Якія мясьціны. Дарога ішла праз шашу, потым праз парк, у якім растрапаныя качкі плавалі па гнілым ручаі, далей зноў цераз вымерлы цэнтр да шпіталя, дваццаць хвілін пешкі з вазком і дзіцём, якое вучыцца хадзіць, хоча хадзіць заўсёды, але не напрасткі, а туды-сюды. Яно вучылася хадзіць. Насуперак усяму і дзякуючы ўсяму. Мая хадзіла гэтай дарогай тыдзень. Туды. І назад. Малое кідала мяккае печыва качкам. Тыя амаль не зьвярнулі на іх увагі. Было халодна, сярэдзіна кастрычніка, восень не была залатой. Малое на руках у Эліс павярнулася, каб убачыць тое, што бачыць яна. Дождж і шэрыя дамы. Нічога, на што хацелася б глядзець.

Можа, я зноў замоўлю таксі, сказала Эліс, Мая не рэагавала, гэта, напэўна, значыла, што ня трэба яшчэ раз тэлефанаваць. Эліс заўважыла, што тая часта размаўляла, нічога пры гэтым не гаворачы, яна добра выказвалася моўчкі. Пры іншых абставінах Эліс, магчыма, пратэставала б супраць гэтага маўчаньня. Але Мая была жонка Міхі. У іх агульнае дзіцё, а калі Міха памрэ, яна будзе ягонай удавой. Гісторыя паміж Эліс і Міхам адбылася надта даўно, каб прад'яўляць нейкія правы. Нейкі анекдот, але, думала Эліс, каб ня гэты анекдот, я б не была зараз у Цвайбрукэне. Але тое, што я тут, нічога не мяняе ў тым, што Міха памірае.

На ўзбочыне спыняецца таксі. Кіроўца скрывіўся, ён зусім не хацеў выходзіць з машыны, мачыць ногі, усё нашае барахло прыбіраць у багажнік, дзіцячы вазок, чамадан, сумку, пакункі зь ежай. Ён выйшаў. Мая зноў узяла малое ў Эліс і пасьміхнася кіроўцу таксі. Эліс села напе-

радзе. Кіроўца нэрвова прыладжваў ззаду дзіцячае сядзеньне. Мая з усьмешкай трымала на каленях малое. Потым яны паехалі. Прыгожыя шклоачышчальнікі, музыка па радыё, мясцовая радыёстанцыя, няважная балбатня, гонг, потым шлягер. Глядзець з вакна. Уніз па дарозе, праз шашу, шыльды, указальнікі, блізкія значкі паваротаў можна было лёгка разабраць, плынь удалечыню, магчымасьць зьнікнуць з Цвайбрукэна.

Давай зьнікнем, давай зьбяжым, звалім, дадзім лататы, мова, якая раптам згубіла тут права на існаваньне. Яны ехалі міма парка, прамільгнуў шпіталь, сем ягоных паверхаў, па дваццаць вокнаў у кожным, трэцім зьлева на шостым паверсе было вакно ў пакоі, дзе Міха ляжаў на сваім ложку і ўдыхаў, выдыхаў, удыхаў. Дзьверы ў ягоны пакой заўсёды былі адчыненыя, а ягонае дыханьне было настолькі гучным, што яго было чуваць яшчэ пры выхадзе зь ліфту.

Ты спалохаесься, калі ўбачыш яго, сказала Мая, калі Эліс першы раз ішла ў шпіталь. Так і адбылося.

Эліс не глядзела на вакно. Яны ехалі ўгору, за межы цэнтра гораду, зусім крыху, потым празь лес, потым апынуліся ў нейкім паселішчы. Таксіст жудасна кашляў. Нумар дванаццаць, сказала Мая з задняга сядзеньня. Кіроўца выгрузіў рэчы з багажніка, нешта мармычучы сабе пад нос. Эліс разьлічылася, узяла маленькі квіточак. Потым ён паехаў. Эліс, Мая і малое стаялі на дарозе і глядзелі на дом, белы, невялікі, новы будынак зь зімовым садам, у якім вялізныя азаліі прыціскаліся да запацелых шыбаў. Перад вітражом ва ўваходных дзвярах вісела неахайна зробленая вядзьмарка на саламянай мятле, яна гайдалася і шамацела ад ветру. Эліс падалося, што яна ведае, як гучыць званок. Паветра было сьвежае. Яны раптам адчулі пахі дажджу, сырой зямлі, вільготнага лісьця.

Зранку Эліс была ў шпіталі. Пасля сьняданку. Ёсьць людзі, сказаў адзін з дактароў, якім лепш паміраць у адзіноце, пакіньце яго крыху аднаго, не перайма́йцеся. Міха быў адзін, з гадзіны ночы да дзясятай раніцы, дзевяць гадзінаў, цягам якіх ён дыхаў, не памёр.

Эліс сядзела гэтым ранкам ля Міхавага ложку да дванаццатай. Спачатку з аднаго боку ложка, потым з іншага. У пакоі не было нічога лішняга: шафа, умывальнік, дзьверы ў прыбіральню, вольная прастора на лакіраваным лінолеўме, дзе стаяў другі ложак, на якім ляжаў другі пацыент. Сёстры некуды вывезьлі яго некалькі дзён таму без аніякіх тлумачэньняў. Некуды вывезьлі.

Справа ад ложку Эліс сядзела спінай да вакна, зь якога было відаць горад і далёкі ланцужок пагоркаў. Зьлева ад ложку яна сядзела побач з кропельніцай з морфіем, але магла абаперціся на шафу і глядзець з вакна на пагоркі, калі яна ўжо больш не магла бачыць Міху. Бачыць ягоны твар. Міха спаў з адкрытымі вачыма. Увесь час. Ён павярнуўся да сьвятла, да шэрага і ўсё ж сьветлага дня, як расьліна, павярнуў сваё цела, галаву, рукі і далоні да вакна. Нягледзячы на адкрытыя вочы, здавалася, што ён сьпіць, але гэта магло быць нешта іншае, накачаны морфіем, гэты стан, які поўніцца выявамі ці больш увогуле нічым. Ён часта і глыбока ўздыхаў. Час ад часу Эліс брала ягоную руку, рука была цёплая, добра знаёмая. Дзьверы былі крыху прыкрытыя, чулася суцяшальнае рыпеньне абутку мэдсёстраў, званок тэлефона на сестрынскім пасьце, грукатаньне ліфта, шэпт і сьмех, працяглая занятасьць, міма пакоя каціўся вазок зь ежай, зрэдзьчас у пакой заходзіла адна з манахіняў. Адна старая зморшчаная манашка прыходзіла часта, Эліс думала, што тая хадзіла больш дзеля яе, чым дзеля Міхі.

Усё добра?

Так, пакуль што.

Манашка спынялася каля мэталёвай сьпінкі ложка, трымалася за яе, глядзела на Міху, нізка схіліўшы галаву. Зь цікавасцю. Ягоны рот адкрыты, і дзёсны ўчарнелыя, невідушчыя вочы скіраваныя да вакна. Манашка зірнула на Эліс і спытала, якім ён быў чалавекам.

Вы пра што, спытала Эліс і выпрасталася, яна зусім асунулася, седзячы на стуле і абапершыся на шафу.

Маеце на ўвазе, кім ён працаваў?

Манашка тым часам узьняла рукі і зноў апусціла, зьлёгку штурхануўшы ложак. Яна сказала, ну, чым ён займаўся ў жыцьці? Што стварыў?

Яны абедзьве зірнулі на Міху, і Эліс падумала, што гэтая манашка ніколі ня ўбачыць, якім Міха быў раней, як выглядаў, гаварыў, лаяўся і сьмяяўся, як ён ішоў па жыцьці. Яна бачыла толькі паміраючага. Што яна ўпусціла?

Яна памарудзіла, потым адказала, я мяркую, што ён быў чараўніком. Майстра чараваньня, разумееце, пра што я, ён умеў усе гэтыя фокусы. Трусікі з цыліндра. Жангляваць. Чытаць думкі. Але ён заўсёды адкрываў свае карты. Заўсёды хацеў паказаць свае карты. Не магу патлумачыць гэтага.

Але манашка сказала, што яна так і думала, ейны голас нэйтральны, у ім можна было пачуць згоду ці грэблівасьць, цяжка зразумець. Яна сказала, ну, цяпер ужо нядоўга. Потым яна выйшла з пакоя. Калі ў іх становіцца такі востры твар, застаецца нядоўга.

Дзьверы белага невялікага дома адчыніліся перад імі, званіць не давялося, можа, тут усе ўсё бачылі, усе на гэтай ціхай-мірнай вуліцы стаялі за фіранкамі сваіх дзьвярэй на тэрасу ў заценены кутах сваіх гасцёўняў і бачылі, як спынілася таксі, як яны выйшлі. Бялявая, шатэнка і маленькае дзіцё ў ружовай шапцы на галаве. І ўсе трое зь мяшкамі пад вачыма. Чамаданы, пакункі і дзіцячы вазок. Перад усімі адчыніліся дзьверы, гаспадары адступілі ў дом, сардэчна запрашаем, яны працягнулі рукі. Мажная жанчына і мажны мужчына, сталыя людзі, у веку Міхавых бацькоў, бацькоў Эліс. Эліс была старэйшая за Маю, і Міха быў ужо немалады. Эліс думала, што ён яе перажыве. Што перажыве іх усіх. Міха заўсёды будзе, так яна думала. Чаму яна так думала, яна і сама не магла патлумачыць, магчыма, так выражалася ейная любоў, як нешта па-за часам. Стоячы перад домам, з пакункамі ў адной руцэ і сумкай у другой, з Маяй побач, з малой на руках, усе гэтыя дробязі, нібы рама на карціне, прыгожыя шарыкі на клюмбах з кветкамі, ужо перакапаная зямля, зялёная лужайка, жаба зь белай гліны, Эліс адчула дрыжыкі ў каленях, ад якіх яна магла згубіць кантроль над сабой, але яны зьніклі. У жанчыны быў вялікі бюст, акуляры зь ліловым адценьнем, яна была неверагодна сардэчнай, неяк ненармальна. Муж заўсёды стаяў крыху за ёй, рукі ў яго былі шурпатыя і напрацаваныя, а поціск моцны, спартовыя штаны даволі брудныя, на шырокім лысым чэрапе глыбокія шнары з абодвух бакоў, нібыта ягоная галава некалі пабывала ў цісках. Ён выглядаў дзіўна, але там усё было дзіўна, трэба было прымаць, як ёсьць, і Эліс панесла сумку ў сад, а малое на руках у Маі ўвесь час казала “заяц”. Заяц. Заяц. Нібы для агульнага супакаеньня.

Кватэра, якую здавалі, была ў склепе. Жанчына патлумачыла, што раней гэта была ейная кватэра, усё зроблена ўласнымі рукамі. Муж маўчаў і пасьміхаўся. Зьверху раней жыла дачка з унукамі, а ўнізе яны самі, потым дачка з унукамі выселілася, пераехала ў іншы горад, цяпер яны будуць зноў жыць наверсе і здаваць кватэру ў склепе, шкада яе проста так пакінуць. Жанчына шматслоўна тлумачыла, нібыта выбачалася, яна размаўляла на жудасным дыялекце, можна было зразумець хіба палову, але, насамрэч, было ўсё адно, хто калі і чаму жыў у гэтай кватэры. Эліс пабегла па Маю, тая ішла за жанчынай, яна адразу ж ўзяла малое на рукі, зьняла ружовую шапачку, нібыта цяпер дзіцё было ейнае. Яны ўсе разам спусьціліся па лесьвіцы. Жанчына з сур’ёзным, зноў маўклівым дзіцём наперадзе, потым Мая, потым Эліс, потым мужчына, які ўзяў чамадан, сумку і пакункі, вельмі прадбачліва. Ён ішоў адразу за Эліс, цяжка дыхаючы.

Дом стаяў на схіле, кватэра была толькі напалову ў склепе і выходзіла ў сад. З першага погляду здалося, што ўсё ў парадку. Пэўная ўтульнасць, вялікае памяшканьне з убудаванай кухняй і са сталом са светлага дрэва пасярэдзіне, паліцы з кулінарнымі кнігамі і парцалянавымі цацкамі, з тэлевізарам і канапай у куце, у гэтым пакоі пачынаўся яшчэ адзін, другі, у абодвух стаялі ложкі, і ванны пакой, з ваннай і пральнай машынкай.

З другога погляду парадку было менш, дробязі, там і тут. Гэтыя людзі, магчыма, толькі ўчора перасяліліся наверх, яшчэ ня ўсё забралі, пакінулі свае асабістыя рэчы, здымкі ў рамках, батарэю пляшак, зьмяты часопісы, распачатае вязаньне. У ванным пакоі на краі ванны шэрагі танных шампуняў і геляў для душа. Яшчэ цацкі, малое іх адразу знайшло. Вопратка ў шафе, пантофлі пад гардэробам, супраць гэтага нічога ня скажаш, так, усё было прыемным, але і надта інтымным, дадатковае напружаньне. Эліс адчула, што яе цягне на ваніты, але яна падумала пра прыгнятальнае афармленьне іншай кватэры, дзе ўсё было выключна практычна і нічога

больш. Дзіцё было вельмі шчаслівае, яно адразу схапіла фігуркі з паліцаў і сьцягнула долу абрус, вытрусіла ўсе кубікі са скрыняў з-пад пральнага парашка і калупала дзьверы лядоўні, а жанчына буркавала, сьмяялася і супакойвала Маю, калі тая выбачалася за малое, і бегала тудысюды, паказвала ўсё, імбрык, кававарку, электрычныя жалюзі, тэлевізар, відэапрайгравальнік, пасьцельную бялізну, ключ. На ключах маленькая вядзьмарка на мятле з дроту.

Эліс стаяла ля вакна кухні і глядзела ў сад. Вялікія арэлі на тэрасе былі накрытыя тэнтам. Ля круглага плястыкавага стала – чатыры белыя стулы і закрыты сонечны парасон усярэдзіне. Дрэвы былі ўжо амаль голыя. Завялыя вяргіні, астры, сланечнікі, альтанка і чырвонае віно. Прыгожы від на іншыя сады ўніз па схіле і ўверх, першыя дамы горада і зусім зьлева шпіталь, даўгі блёк з мноствам вокнаў. Надта далёка, каб адрозьніць вакно Міхі, але досыць блізка, каб ведаць – там Міха. А мы тут.

Эліс глядзела і адчувала, што будзе здрадай не паказаць гэта Маі. Яна пакінула гэта сабе, яшчэ імгненьне. Мая была занятая, з гаспадыняй і дзіцём у адной са спальняў, малое, пэўна, скакала на ложку і віскатала ад задавальненьня. Эліс пераняла вочы ад вакна на бляшаную ракавіну, на палічку над ракавінай, плястыкавыя кантэйнэры са спэцыямі, напалову поўныя, маяран, размарын, каляровы перац, усё крыху бруднае, клейкі слой на накрыўках, ракавіна была таксама не зусім чыстай. Эліс дзеля праверкі пакруціла кран, адкрыла і закрыла, за ейнай сьпінай стаяў гаспадар. Ён абняў яе, паклаў свае рукі ёй на сьцёгны і прыцягнуў да сябе, патрымаў яе, потым адсунуў убок, адпусьціў. Ён сказаў, што сродак для мыючай машынкі недзе пад ракавінай, махнуў некуды.

Эліс сказала, ох, дзякуй вялікі, ён нам, канечне, спатрэбіцца. Яна падняла руку і паклала сабе на патыліцу, разгублена і павольна, павярнулася пры гэтым да яго. Нібыта можна было ўсё сьцерці. Сьцерці гэтыя абдымкі.

Ён паматаў галавой. Ён пасьміхнуўся ў вакно і сказаў, няма за што дзякаваць. У вас зараз цяжкія часы. У вас насамрэч цяжкія часы.

Потым ён адступіў, нібыта ўжо стаяў на ўскрайку магілы. Ён адышоў са штучнай сьціпласьцю, апусціўшы вочы і ўсё яшчэ махаючы галавой. Жанчына сьпешна выйшла са спальні са стосам пасьцельнай бялізны бэзавага колеру ў руках, на твары чырвоныя плямы. Мы самі перасьцелім ложкі, крыкнула Мая са спальні, не турбуйцеся, калі ласка, мы насамрэч зможам самі зрабіць гэта. Жанчына зірнула на свайго мужа, потым на Эліс і не адвяла вачэй. Эліс падышла да яе і ўзяла пасьцельную бялізну Вы ўпэўненыя, спытала жанчына, так, адказала Эліс, нават ня ведаючы, у чым яна мусіць быць упэўненая.

Мая зайшла ў кухню, абаперлася на раму дзьвярэй у спальню, рама была зьбітая са старых дошак, несапраўдная трываласьць. Малое зьявілася за ёй на ўсіх чатырох, падцягнулася ўверх за руку Маі і абняла ручкамі Маіна калена, дзіцё было апранутае толькі ў калготы, маечку, ціха ікала і выглядала кранальна сонным. Эліс сказала, мы мусім радавацца, што мы тут, тут прыгожа, адзін толькі сад, яна шукала нейкі жэст і не знайшла, але гэта ня мела значэньня. Муж і жонка нарэшце сышлі, падняліся наверх. Цяжкія жывёлы, баязьлівыя і цікаўныя, яны падымаліся сьпінай па лесьвіцы і пры гэтым нешта крычалі, словы супакаеньня, суцяшэньня, парады, пакуль ня зьнік першым мужчына, а Мая зачыніла дзьверы далоньню і прытулілася галавой да вакенца.

Пасьля абеду Эліс яшчэ раз пайшла да Міхі. Гадзіна, пакуль Мая і малое спалі. Яна выбегла з паселішча, потым па дарозе ўніз да горада, праз лес, угору. Больш не дажджыла, было туманна і халодна, ейныя рукі былі ў кішэнях курткі і шалік вакол шыі. У шпіталі было спакойна. На мазайцы пры ўваходзе манах прасьціраў у малітве рукі пад небам з тысячы блакітных каменьчыкаў. Побач гудзеў кавааўтамат. Эліс прайшла міма дошкі з пашпартнымі здымкамі дактароў, мэдсёстраў і манашак. Яна магла б пашукаць твар маленькай, зморчанай манашкі, якая спытала, кім быў Міха. Магла б пашукаць ейнае імя, але нешта стрымала яе.

Яна паехала ў ліфце на шосты паверх і пачула дыханне Міхі, калі адчыніліся дзьверы ліфта. Дзьверы ў пакой былі прыадчыненыя. Міха ляжаў, нібыта ён не варушыўся ў тыя гадзіны, што яна адсутнічала. На сьпіне, рукі выцягнутыя зьлева і справа, твар павернуты да міргаючага сьвятла, рот адкрыты, вочы адкрытыя. Эліс паставіла стул, які яна ранкам падсунула да стала,

зноў да ягонага ложку. Яна села і асьцярожна прамовіла ягонае імя. Ён не адрэагаваў. Нягледзячы на гэта, Эліс адчувала, што ён ведае, яна побач. Ці было яму важна, што яна тут, ці гэта яго напружвала, яна ня ведала. Больш не было нічога, на што ён мог рэагаваць. Усё, што было раней, сышло. Усе гісторыі, што адбыліся паміж ім і ёй, таксама сышлі. Нічога не засталося. Усё мінула, цяпер яна магла разьвітацца. Чыстая, зьзяючая сучаснасьць. Эліс пацалавала Міху, як не цалавала яго пры жыцьці. Яна дакладна ведала, што пры жыцьці ён бы забараніў сабе такі пацалунак.

Увечары яны разам елі. Эліс, Мая і малое. За сталом са сьветлага дрэва, Мая і малое з аднаго боку, Эліс зь іншага. Рыба і бульба. Талеркі з жоўтымі куранятамі, шклянкі з кветкамі. Гатавала Мая, яна гатавала зусім бяз солі, без аніякіх выкрутасаў, нейкая біблейская ежа, можна было лічыць яе нясмачнай ці чыстай, дзіцю, здаецца, падабалася.

Вы часта разам елі, спытала Эліс.

Час ад часу надаралася магчымасьць задаць пытаньне, Мая тады адказвала, ці наадварот, Мая пытала, Эліс адказвала. Але далей не ішло, пытаньні і адказы не стваралі размову. Гэта, думала Эліс, як нашае становішча. Цэнтраваная пустэча.

Так, адказала Мая. Спачатку не, потым так. Калі мы жылі разам. Міха любіў рыс.

Ага, сказала Эліс.

У мінулым годзе яна рэдка бачыла Міху і ў кватэры, дзе ён жыў з Маяй, не была. Яна насамрэч ня ведала нічога пра дзіцё і не жадала ведаць. Нейкі іншы Міха? Ці ўсё ж не?

Малое рашуча шлёпнула далоньню па талерцы, на якім было пюрэ з бульбы і рыбы. Мая ўзяла руку і выцерла сурвэткай, старанна, кожны зь пяці пальчыкаў паасобку. Малое глядзела і ківала. Пасьля рыбы елі белы ёгурт бязь мёду. Крыху цёплая гарбата зь фенхелю. Дзіцё піло яе з бутэлечкі, якую ўжо трымала само, малое сядзела на каленях у Маі і пільна глядзела на Эліс.

Так, сказала Мая. Час ісьці спаць. Яна асьцярожна паставіла малое на ногі, пачакала, пакуль яно знойдзе раўнавагу. Яна пачала прыбіраць са стала і сказала, калі б Міху палепшала, яны маглі б на наступным тыдні замовіць адмысловы шпітальны транспарт. Дадому, у Бэрлін. Я хачу, каб ён быў дома. Міха таксама хоча. Ён хоча дадому.

Яна пусьціла ў ракавіне ваду на талеркі, потым паставіла іх у машынку, сама знайшла сродак для машынкі. Ейная манэра рухацца па кухні была натуральнай і ўпэўненай. Ніякага замаруджаньня, Мая нічога не баялася, здавалася, яна нічога не брыдзілася. Яны выцерла стол і паставіла грэцца чайнік.

Яна спытала, сёння ў яго была падвышаная тэмпэратура?

Потым яна прысела перад пасудамыйнай машынкай, хутка агледзела кнопкі і маленькія сымбалі, закрыла дзьверцы і рашуча крутанула выключальнік направа. Ціхі шум. Ці была ў яго сёньня гарачка?

Не, адказала Эліс. Яна адказала на задуменны пагляд дзіцяці, удзячная за ягоную нэйтральную цішыню. Ранкам нейкая маладая бледная сястра баязьліва і няўмела шукала Міхаў пульс і мерала яму тэмпэратуру элетронным тэрмомэтрам, ад ягонага сігнала, пяшчотнага, нібы гудзеньне цвыркуна, яна ўздрыгнула, быццам нехта крыкнуў ей у вуха. Запісала прыдуманыя, дрыготкія лічбы ў табліцу і хутка выбегла з палаты. Здалося, што гэтая сястра баялася, што Міха можа памерці, калі яна мерае тэмпэратуру. Рэзкі спад тэмпэратуры. Электронныя лічбы набягаюць адна на адну. Ляцяць уніз да нуля. У Эліс было адчуваньне, што дотык сястры, пошук пульса на ягоным запясьці і потым на ягонай шыі, былі балючымі для Міхі, пасьля гэтага яна больш не брала ягоную руку ў сваю.

Яна сказала, не, у яго не было падвышанай тэмпэратуры. Паднялася і сказала, давай я прыбяру астатняе, я ўсё зраблю.

Ты выкарыстоўваеш заўсёды вельмі шмат вады, адказала Мая. Ты пакідаеш ваду проста ліцца, калі мыеш посуд, я ўжо заўважыла. Міха таксама так рабіў. Я яго адвучыла.

Мая ўкладала дзіцёнка спаць. У пакоі зь вялікім сямейным ложкам перад шафай зь люстэркамі на дзьвярах. Вялікая колькасьць коўдраў і падушак. Эліс сядзела за сталом на кухні і прыслухоўвалася.

Дзе зайчык.

Дзе зайчык.

Тут зайчык. Тут.

Сьмех дзіцёнка перайшоў у стомлены плач, Мая напявала кавалкі радкоў зь песьні, рана ранкам, калі пажадае Бог, цябе зноўку пабудзяць. А цяпер сьпі. Сьпі. Стала ціха. Эліс піла гарбату зь фенхелю, яна бязгучна ставіла свой кубак на стол, пэўны спосаб мэдытацыі. Празь нейкі час Мая выйшла са спальні і асьцярожна зачыніла за сабой дзьверы. Яна села за стол зь іншага боку, таксама глынула фенхелевай гарбаты і глядзела, як Эліс, на двор, празь дзверы тэрасы ў цёмны сад. Яны адбіваліся ў шкле.

Ён табе нешта казаў, спытала Мая.

Не, адказала Эліс. Ён спаў, увесь час. Ён амаль не варушыўся. Часам так цяжка ўздыхае. Больш нічога.

Мая кіўнула. У ванне Мая вымыла твар, расчасала валасы, апранула іншы швэдар, шэры зь зялёнымі палоскамі, пухнатая, мяккая воўна, гэта нібы перакручанае спатканьне, падумала Эліс.

Ты добра выглядаеш, сказала яна.

Мая добра выглядала. З гэтымі заўважнымі мяшкамі пад вачыма, худая і бледная, стомленая, валасы строга прычасаныя з твару і высока завязаныя. Пульсуючае, цёмнае сьвятло вакол яе. Яны абедзьве пайшлі ў спальню і разам глядзелі на малое, якое спала. Дзіцёнак спаў моцна, у спальным мяшку зь ягнятамі, ляжаў на сьпіне, ручкі выцягнутыя, зусім безабаронны, вуха мяккага зайца сьціснутае ў левым кулачку.

Калі прачнецца і не перастане плакаць, тады тэлефануй мне, сказала Мая. Я прыйду недзе апоўначы, там будзе відаць.

Так, сказала Эліс. Я пачакаю цябе, я ня буду спаць.

Эліс правяла Маю да дзвярэй. Яны не запальвалі сьвятло, на дыбачках пракраліся па лесьвіцы наверх. Дзьверы ў пакоі тых людзей былі прыадчыненыя, праз шчыліну пранікалі гукі тэлевізара, гучнае пляскаНьне і мяккі цынічны голас вядучага. У калідоры было халодна. Пахла вячэрай, мыючым сродкам, чужымі звычкамі. Эліс паклала руку на ручку дзьвярэй, на нейкі момант ёй здалося, што яны зачыненыя. Але дзьверы адчыніліся. Вечаровае паветра, такое прыемнае, нібыта яны цягам некалькіх месяцаў не былі знадворку. У калідоры запалілася сьвятло, жанчына стаяла за Маяй, на ёй быў спартовы касьцюм і ніякага абутку.

Вы хочаце выйсьці так позна?

Так, адказала Мая, я зараз іду ўніз, у шпіталь. Я хачу праведаць свайго мужа, я за цэлы дзень ні разу не была ў яго.

У жанчыны быў такі выраз твару, нібыта яе ўкалолі, нібыта ёй раптам нешта забалела. Яна зусім забыла пра мужа Маі.

Але я магу адвезьці Вас туды.

Не, дзякуй, ня трэба, адказала Мая, яна ветліва пасьміхалася.

Так, так, сказала жанчына, давайце я адвязу Вас туды, нельга ісьці ў такую цемру ды яшчэ пешкі.

Яна не дазволіла ёй пярэчыць, зьнікла ў пакоі, нібыта яе засмактала блакітнае сьвятло тэлевізара, яна нешта сказала мужу, муж нешта адказаў, нічога нельга было разабраць праз гоман у тэлешоў. Мая закаціла вочы. Эліс ня ведала, што сказаць. Жанчына вярнулася, цяпер яна была абутая, тоўстая вязаная кофта, яна нацягнула кофту на шырокія сьцёгны і выцягнула ключы ад машыны.

Хадземце. Ну хадземце ўжо.

Тады да сустрэчы, скзала Мая, зьлёгку дакранулася да рукі Эліс, потым зьнікла за жанчынай ў садзе.

Эліс зачыніла дзьверы. Ёй было млосна. З пакою нязьменна ішло блакітнае пякельнае сьвятло, тэлевізар пляваўся інфэрнальным сьмехам. Яна спусьцілася па лесвьіцы ў кватэру ў склепе і зачыніла за сабой дзьверы. Дзьверы мелі драўляную раму і малочна-непразрыстае

вакенца. Эліс пайшла ў ванну і адчыніла вакно-люк, вакно на дарогу. Яна чула, як знадворку завёўся рухавік машыны, машына выехала, павярнула, пакацілася ўніз па вуліцы, цішэла, потым стала зусім ціха.

Дваццаць хвілін. Пешкі да шпіталя і дваццаць хвілін назад. Машынай пяць хвілін. Сьветлафоры. Рух на скрыжаваньні. Абмяняцца парай сказаў. Магчыма, зайсьці разам, чаму б і не, проста так. Потым пяць хвілін назад. Чвэрць гадзіны, на ўсё пра ўсё, даўгая, вечная чвэрць гадзіны. Эліс стаяла ў ванне і прыслухоўвалася. Яна адлічвала, пачынаючы з сотні, сэкунды, была амаль упэўненая і ўсё ж зьдзівілася, калі пачула яго. Пяцьдзясят сёмая сэкунда. Ён выйшаў са свайго пакоя, нешта рабіў ля ўваходных дзьвярэй. Потым спусьціўся па лесьвіцы, шлёп-шлёп-шлёп, на нагах пантофлі. Ён павярнуў у калідоры, ведаў дарогу, яму не патрэбнае сьвятло. Эліс ціха выйшла з ванны і ўбачыла праз малочнае шкло ягонае бясформеннае, цяжкое цела. Ён слухаў, слухаў, як і яна. Потым ён пагрукаў па драўлянай раме.

Эліс абедзьвюма рукамі падцягнула валасы, заплеценыя ў касу. Яна закатала рукавы свайго швэдра вышэй запясьцяў. Адчыняць дзьверы ці не. Адчыняць дзьверы ці пагаманіць праз зачыненыя, паказаць страх ці схаваць, ад чаго дакладна страх. Яна адкінула хуткія шалёныя думкі і адчыніла дзьверы.

Так?

Там насамрэч стаяў ён, са шнарамі на галаве і шэрым швэдры на тлустым жываце і ў гэтых неверагодна брудных штанах, выразны, кіславаты пах ішоў ад яго. Ён сказаў, Вам ня трэба тут зачыняцца.

Ага, адказала Эліс. Ейнае сэрца калацілася і сьціскалася. Яна ледзь разумела яго. Яна сказала, што такое?

Цяпер ён пасьміхаўся, пэўным, адназначным чынам. Толькі хацеў зірнуць, ці ёсьць у Вас усё, што трэба. Калі Эліс правільна яго зразумела, гэта тое, што ён сказаў.

У вас усё ёсьць, што трэба?

Ён аглядаў Эліс, ейную постаць, зьнізу ўверх, усё яшчэ з усьмешкай, задумлівы і спакойны. Эліс ведала, пра што ён, і ён ведаў, што яна ведае. Магчыма, у пераносным сэньсе яны думалі не адное і тое ж, але ў прамым дакладна.

У мяне, падумала Эліс зусім не пра гэта, усё ёсьць. Абсалютна не пра гэта.

Яна сказала, у мяне ўсё ёсьць, што трэба. У нас усё ёсьць, сапраўды, дзякуй вялікі.

Ён пасунуўся на адзін цяжкі крок наперад і зірнуў паўз яе ў пустую кватэру. Пачуў знаёмы шоргат пасудамыйнай машынкі. Магчыма, ён цяпер інакш бачыў усё, з рэчамі Эліс, Маі і дзіцёнка ўнутры. Куртка Эліс ў гардэробе. І маленькі мяккі боцік малечы на падлозе пад сталом і побач зялёны пластыкавы мяч, і ўсё гэта паглынуў смутак, ён бачыў, як усё адрозьнівалася.

Эліс чакала, пакуль ён глядзеў. Яна і сама зірнула. Яна чакала і ведала, што ўсё адно, як яна адказала. У яго было дзесяць хвілін, ці нават пятнаццаць, усё было верагодна. Але яна не ішла яму насустрач, таму ён не сьпяшаўся, а смутак адштурхоўваў яго, нібыта хвароба.

Эліс сказала, тады дабранач.

Ён яшчэ стаяў.

Яна зноў сказала тое самае.

Ён адступіў. Шлёп-шлёп, наверх па лесьвіцы. Затрымаўся на апошняй прыступцы, можа, яна яго пакліча назад. Эліс пытала сябе, чаго б чакаў ад яе Міха. Яна ня ведала. Яна закрыла рот далоньню і слухала, як мужчына прыйшоў наверх, потым нарэшце абарвалася балбатанне тэлевізара, як толькі зачыніліся дзьверы.

Мая вярнулася недзе апоўначы. Эліс зрабіла яшчэ адзін заварнік фенхелевай гарбаты, зь мёдам, выпіла, яшчэ зьела тры дзіцячыя пячэнькі. Яна павыцягвала мноства шуфлядаў, разгледзела зьмесціва і зноў зачыніла. У шуфлядзе з прыборамі тарахцела безьліч маленькіх лыжачак зь сіропаў ад кашля, лыжачкі для марозіва, плястыкавыя лыжачкі, брудныя, яна мармытала сабе пад нос. Пад відэаплэерам касэты з самаробнымі этыкеткамі і сумнеўным зьместам. У скрынях сьценкі – наборы для майстравання, нажніцы і пустыя флаконы ад клея, станавілася няёмка, яна ледзь прымусіла сябе спыніцца.

Яна разгрузіла пасудамыйную машынку, паставіла талеркі і кубкі ў шафку над плітой, прымусовая імітацыя іншага жыцця. Спрабавала супрацьстаяць тэлевізару і капітуліравала. Яна заснула седзячы за сталом, галава на руках, схаваная ў выпадковым парадку прадметаў навокал: соска, заколка Маі, папяровыя пакецікі ад гарбаты, алоўкі і дзіцячая кніга з кардону зь мяккімі куточкамі. Рукі зацяклі, яна ўскочыла. Але малое ўсё яшчэ моцна спала, у левай руцэ сьціснуты заяц і ніякага цяжкога ценю ў калідоры за дзьвярыма. Эліс пайшла ў пакой, у якім яна будзе спаць, расклала канапу і пасьцяліла. Блакітная прасьціна. Начная кашуля каля падушкі. Жалюзі ўніз, дзьверы на тэрасу адчыненыя. Звонку лёгкі вецер, мужная непахіснасць рэчаў, іх адназначныя імёны, дзіцёнак вывучыць усе: дрэва, стул, сад, неба, месяц і шпіталь. Сьветлыя вокны, цёмныя вокны. Маленькія постаці за імі, адна Мая, адзін Міха, адна манахіня.

23:45

Начная зьмена.

Мая вярнулася бязгучна, на лесьвіцы ці ў калідоры нічога не было чуваць, толькі лёгкі стук па малочнай шыбе. Яна здзівілася, што Эліс зачынілася, ці ўсё добра? Так, адкзала Эліс, усё добра, але я так лепш пачувалася.

Мая зазірнула да дзіцяці, хутка і заклапочана, здавалася, у яе заўсёды былі сілы для рэчаў, пра якія трэба думаць ці якія трэба зрабіць, ня больш і ня менш, дакладна і правільна. Эліс, седзячы за сталом, чакала, трымаючы спіну прама, рукі складзеныя на каленях.

Можа, вып’ем яшчэ піва. Пытаньне Маі.

З задавальненьнем.

Эліс доўга капалася ў плястыкавых ложках, шукаючы адкрывалку, нарэшце знайшла, з назвай нейкай рэстарацыі ў Бад Цвішэнан, узяла дзьве пляшкі піва з халадзільніка, ледзяныя. Яны чокнуліся, нічога ня кажучы. Піва казытала, было салодкім, пакруціла нешта ў галаве Эліс і зьнікла. Унутранае расьцягненьне пад узьдзеяньнем алькаголю? Яна чытала пра гэта, здаецца, праўда.

У шпіталі было добра, сказала Мая. Зусім ціха. Я змагла легчы да Міхі, першы раз за доўгі час мы ляжалі побач. Ён дыхаў вельмі спакойна, я думаю, яму больш не баліць. Заўтра я пагутару з доктарам, па абедзе, пасьля абыходу. Можа быць, я нават крыху заснула. Мы спалі разам.

Калі, мімаходзь спытала Эліс, вы пазнаёміліся?

Ты ня ведаеш? сказала Мая. Здзіўлена. І прыязна.

Не, адказала Эліс. Яна пра гэта насамрэч ня ведала. Міха нічога не казаў пра тое, але яна ніколі і не пытала.

У той дзень, калі ён вярнуўся з вашай сумеснай вандроўкі.

Нават так, зьдзівілася Эліс. Тая сумесная вандроўка адбылася некалькі гадоў таму, гэта была адзіная вандроўка, у якую яна езьдзіла зь Міхам, і напрыканцы яе яны канчаткова разышліся. Я зараз спынюся, сказаў Міха, раз і назаўсёды. І Эліс упэўнена згадзілася, так, я таксама. Яны былі задаволеныя адно адным, яны не сварыліся, можа быць, акурат таму яны маглі спыніцца. Міха зьехаў першы, Эліс засталася яшчэ на пару дзён. Але яна раптам узагадала, як ёй хацелася плакаць, калі яна правяла яго да цягніка і адна вярнулася ў дом. Нібыта ён памёр, яна думала, гэта я ўжо пераіжыла.

Мая сказала, Міха быў шчасьлівы, калі вярнуўся. Калі я зь ім пазнаёмілася. У яго ўсё было файна, ён досыць добра адпачыў.

Гэта марское паветра, сказала Эліс. Зьмена клімату.

Яны памаўчалі крыху. Эліс вагалася, потым сказала, у апошні вечар гэтай вандроўкі мы разам елі, як ты і я зараз. Зь дзьвюма пляшкамі піва, разам за адным сталом, але ў садзе, быў чэрвень, ты ж памятаеш. Чэрвень лета стагодзьдзя. Нават сярод ночы вельмі горача.

Яна падумала, як двухсэнсоўна гэта гучала: горача, сярод ночы, чэрвень лета стагодзьдзя. Разам, ты і я. Як маляўніча, слова за словам. Але так і было, вечар, да таго як Міха сустрэў Маю, хто б мог падумаць.

А потым, сказала Мая.

А потым павук сплёў павуціньне паміж бутэлькамі зь півам, сказала Эліс. Паміж рыльцамі бутэлек, першыя ніці. Яна паказала памер павука паміж вялікім пальцам і ўказальным, рысавае зярнятка. І тонкі канат паміж абедзьвюма бутэлькамі нібы над безданню. Яны сядзелі побач, плячо да пляча. Пэўны час сачылі за павуком, як спакойна, самааддана ён ткаў.

Яму было шкада, сказала Эліс. Яму было шкада руйнаваць ягоную працу.

Ці ён зруйнаваў, спытала Мая.

Ну, паспрабуй адгадаць, адказала Эліс. Яны абедзьве пасмяяліся, ціха, кожная пра сябе.

Хадзем, сказала Мая, хадзем спаць, ужо амаль палова на другую. Нам заўтра трэба рана падняцца. Хочаш ранкам пайсьці да яго?

І Эліс адказала, так, я з радасьцю пайду зноў да яго ранкам.

Яны разам пачысьцілі зубы. Стоячы побач, на блакітным ванным кілімку каля ўмывальніка, перад адным люстэркам, рама якога была абклееная залацістымі і срэбнымі ракушкамі. Яны бачылі адна адну ў люстэрку, іхнія розныя твары.

Міху, падумала Эліс, спадабалася б бачыць нас такімі. Ён бы вельмі парадаваўся, ён бы сказаў, вось бачыце. Ён ведае гэта. Ён мусіць ведаць.

Дабранач, сказала Эліс. Файных сноў, Мая.

Так, адказала Мая, дабранач. І табе файных сноў, Эліс.

Эліс прачнулася ад таго, што Мая грукала ў зачыненыя дзьверы ейнага пакоя. Казала ейнае імя. Можа, яна грукала ўжо пэўны час, Эліс было цяжка прыйсьці ў сябе, вынырнуць з глыбіняў ейнага зморанага сну. Пазьней яна пытала сама сябе, чаму Мая проста не зайшла ў пакой. Потым яна прачнулася. На нейкі момант узгадала, як гэта было ў дзяцінстве, калі будзілі сярод ночы, каб ехаць на вялікія вакацыі. Злосьць і ўзрушанасьць. Яна адкінула коўдру. Яна гукнула, я прачнулася, і тады Мая адчыніла дзьверы, стаяла зь дзіцём на руках, разрэз у сьветлую гасьцёўню, дзе зноў над сталом гарэла лямпа, і сказала, Міха памёр.

Колькі зараз, спытала Эліс.

Чацьвёртая, адказала Мая. Толькі што патэлефанавалі са шпіталя, ён памёр дзьве гадзіны таму, яны хацелі даць нам крыху часу на сон.

Чакай. Я зараз падымуся, сказала Эліс. Яна нацягнула швэдар паверх начной кашулі, басанож прыйшла ў кухню. Малое сядзела за сталом, вялікі палец у роце, бяз спальнага мяшка, у блакітнай маленькай маечцы з кнопкамі на плячы. Petit Bateau . Эліс працёрла вочы. Мая проста стаяла там, пасярод пакоя. Астранаўты, думала Эліс, мы нібыта астранаўты, нідзе няма прыпынку.

Яны спыталі, ці жадаем мы яшчэ раз убачыць яго, сказала Мая. Тады яны нас пачакаюць. Яна выглядала вельмі спалоханай.

Мне трэба падумаць, адказала Эліс, гэта прагучала як пытаньне. Яна села каля дзіцяці, абаперлася лакцямі на стол. Адну хвіліну. Мне трэба падумаць.

Ты ўжо бачыла мерцвякоў?

Не. Ня бачыла.

Мая патэлефанавала ў шпіталь і сказала, мы едзем. Ці змогуць яны яшчэ пачакаць, калі ласка, яшчэ крыху, малое і дарога, недзе паўгадзіны, калі гэта магчыма.

Хто быў на тэлефоне, спытала Эліс.

Ня ведаю, адна з манахінь, сказала Мая. Ня тая старая, строгая, маладая манашка.

Ну тады, сказала Эліс. Тады хадзем.

Пасьля абеду яна паехала назад у Бэрлін.

Мая яшчэ засталася б, але Эліс адчувала, што яна звар'яцее, калі ёй давядзецца правесьці хаця б адну ноч у той кватэры зь відам на шпіталь, у якім ужо ніхто не ляжаў. Шпіталь быў пусты. Ціхі будынак.

Калі мы ня будзем уважлівыя, падумала Эліс, то таксама зьнікнем. Мая і дзіцё, і я, мы знікнем у Цвайбрукэне, бясьследна.

Яна патэлефанавала на чыгуначны вакзал і атрымала блытаны расклад цягнікоў, пазначыла час у календары, як заклінаньне. Мая і малое паляцяць, увечары. Яны разам прыбраліся ў кварэты, зьнялі пасьцель, памылі кубкі і склалі рэчы, пакуль дзіцё на падлозе перад тэлевізарам будавала і разбурала вежы з плястыкавых кубікаў, пакуль не надакучыла.

Нам трэба яшчэ паспаць, сказала Мая, паклалася на ложак зь дзіцём і разрыдалася. Эліс асьцярожна зачыніла дзьверы. Яна села за стол і выпіла тры вялікія шклянкі чорнай, халоднай, горкай кавы адну за адной. У садзе, на схіле ў даліну мужчына пілаваў танныя дровы, не падымаючы вачэй на тэрасу. Ён больш ні разу не зірнуў на Эліс і не сказаў ні слова, усё ўжо было сказана. Але ён абняў Маю, калі яна разьлічвалася за начоўку і паведаміла пра стан рэчаў, Мая не зьвярнула ўвагі на тыя абдымкі. Ніякага спусташэньня. Эліс зьдзіўлена глядзела, Мая была ўдавой, безабароннай і сьвятой, у яе ня трэба было пытаць, ці ўсё ў яе ёсьць, што трэба, і яна б адказала зусім ня так, як Эліс. Жанчына схавала грошы ў кішэню вязанай кофты, нібыта яна не зьбіралася іх пералічваць, а потым, як па камандзе, пачала лямантаваць, узьняла рукі да неба. Эліс пайшла ў ванну і там чакала, пакуль усё скончыцца.

Я давязу вас да аэрапорта, сказала жанчына Маі, канечне, я сёньня ўвечары адвязу вас у аэрапорт, а Эліс сказала, што возьме таксі да вакзала, хаця ніхто ў яе пра гэта не пытаўся.

Мая і дзіцё спалі дзьве гадзіны. Потым падняліся, абое разгубленыя на свой капыл, крыху хісталіся. Босыя ножкі дзіцёнка стваралі па падлозе ў кухні гук, які Эліс трывала зь цяжкасьцю. Яна сказала, я мушу зараз пайсьці. Ёй варта было затрымацца, не апранаць куртку.

Я ведаю, сказала Мая. Усё добра, у мяне яшчэ ёсць справы тут, а потым мы хутка паедзем у аэрапорт. Можа, ты возьмеш Міхаў чамадан. Я потым забяру яго ў Бэрліне.

Чамадан быў маленькі. На колцах, лёгкі. У шпіталі Мая расклала рэчы Міхі, пасля абеда, калі ім трэба было вызваліць пакой, і сонечнае сьвятло падала на бліскучы лінолеўм, на плястыкавы навес над сьвежазасьцеленым ложкам. Яны атрымалі ад сёстраў пакунак для сьмецьця, Эліс трымала пакунак, Мая паказвала кожны прадмет паасобку. Пігулкі. Інфармацыі пра альтэрнатыўнае лячэньне рака. Новыя шкарпэткі. Новая піжама. Пантофлі. У пакунак для сьмецьця. Рэчы, якія Міха насіў, калі ён прыляцеў у Цвайбрукэн, у чамадан. Здымак Маі і дзіцяці ў чамадан. Нататнік зь несьпісанымі аркушамі ў чамадан. Яны аддалі пакунак сёстрам. Малое сядзела на каленях адной з манахінь і казала новыя словы сабе пад нос, зноўку, з гонарам, цяжка зразумець, насамрэч чулася так: Аба. Ка. Дабра:

Абракадабра. Дакладна.

Канечне, я вазьму з сабой чамадан, сказала Эліс. Дзякуй табе. Канечне, я вазьму яго з сабой, у яе не было словаў, каб сказаць тое, што хацелася.

Таксіст ішоў насустрач па садовай сьцежцы. Па разьбітых каменных плітках, міма градак, міма глінянага крата. Таксі было чорнае, лімузін зь цёмнымі шыбамі, было відаць назву фірмы таксі.

Гэта ж таксі, ці як, няўпэўнена спытала Эліс, усё выбілася з каляіны, усё было магчыма. Таксіст не ўдастоіў гэтае пытаньне адказам. Ён узяў у Эліс чамадан, сумку, павярнуўся, загрузіў усё ў багажнік, сеў у машыну, чакаў.

Убачымся ў Бэрліне, сказала Эліс.

Так, адказала Мая. Яна стаяла, малое на руках, у адчыненых дзьвярах дома. Вядзьмарка з саломы шамацела на скразьняку. Азаліі ў зімовым садзе. Пасьляабедзеннае сьвятло. Добрай дарогі.

Эліс павярнулася і пайшла з сада на дарогу да таксі. Яна села ззаду, апусьціла шыбу і памахала. Мая памахала ў адказ. Яна нешта сказала дзіцёнку, дзіцёнак таксама памахаў. Таксі паехала, Мая з малым адступіла ў калідор і зачыніла за сабой дзьверы.

***Пераклала з нямецкае мовы Наталля Рудак.***
***Паводле выданьня Judith Hermann “Alice“ (2009),***
***Fischer Verlag GmbH, Frankfurt am Main.***
***Друкуецца з дазволу аўтара.***